PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 50 (1961) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 12 СНЕЖНЯ 1993 г. ЦАНА 3000 зл.



*Капліччка каля Новага Беразова.* **Фота У. Завадскага**

## БЕЛАРУСЬ — ГЭТА ІНТАРЭС ПОЛЬШЧЫ

Без самастойнай Беларусі не будзе самастойнай Польшчы (ні Украіны).

Канцлер Бісмарк любіў паўтараць, што ў палітыцы ўсё змяняецца, акрамя геаграфіі. Гледзячы так, Рэспубліка Беларусь уяўляе сабою расейскі балкон, па абодвух баках якога ўкраінцы і прыбалты, а наперадзе палякі. Маскоўскі бот топчацца па Гародні, Бярэсці ці Менску спакойна. За спіною няма аніякага мора, г.зн. вакна на свет. Наўкола адны суседзі, у іх ліку крамлёўская супердзяржава.

Беларуская Дзяржава існуе пакуль што па міжнароднай інерцыі. У сучасны палітычны момант на кантыненце няма як ліквідаваць яе. Тыповая каланіяльнаму ўтварэнню сітуацыя. Патрыятычныя сілы маргінальныя, асноўная маса народу інертная, з мэнталітэтам насельніцтва, а не нацыі. Пераважная большасць структураў улады трымаецца псіхалогіі „пятай калоны" або і зусім агентурная.

Адраджэнне нацыянальнай мовы і культуры адбываецца вымушаным парадкам. Марудна і перыферыйна.

Расія са сваёй неабсяжнай тэрыторыяй і невычэрпным патэнцыялам не можа пераўтварыцца ў бяззубага гіганта. У чым значэнне ёй Беларусі? У недапушчэнні да ізаляванасці ад Еўропы. У захаванні сталых магчымасцяў націску на Польшчу, якая перашкаджае ў сціслым кантактаванні з Нямеччынай. Як у пятроўскую эпоху, без прыцягнення нямецкай тэхналогіі не будзе там хуткага руху дапераду. А час паганяе.

Над Віслай усё яшчэ невыразна ўсведамляюць сабе, што ніхто не возьмецца істотным чынам спрыяць росту польскай магутнасці. Тым болей Масква, хоць і апавяшчае час-часам прыгожыя, дэмакратычныя, дэкларацыі. Той, хто ў палітыцы кіруецца сэрцам і пільнуецца гонару, застаецца ў дурнях. Пераможцаў не судзяць.

Захад не ёсць у стане быць верным саюзнікам Польшчы. Яму патрэбны перш за ўсё Ельцын і вялізныя расійскія рынкі збыту. Варшава — гэта слабы гешэфт. Не кажучы пра Беларусь, зацікаўленне якою круціцца вакол разззбраення яе атамных ракетаў.

На нашых вачах рыхтуецца змена стратэгічнага шляху еўрапейскай палітыкі Расіі. Традыцыйна яна ігнаравала беларускі напрамак, канцэнтруючыся ў прыбалтыйскіх партах і на ўкраінскім Прычарнамор'і, адкуль рукою было падаць на Балканы і ў цэнтры цывілізацыі немцаў. Кіеў, стаўшы сталіцай краіны роўнай Францыі, не ўступіць. Менск невыпадкова намінавана суперсталіцаю Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Чаму? — паглядзіце ў атлас. З-над Свіслачы выгадней кантраляваць ва ўсе бакі; азіяты і так нікуды не падзенуцца.

Цалкам незалежная Рэспубліка Беларусь зачыніла б апошнія вароты перад носам маскаля (Калінінградская вобласць — толькі своеасаблівы Порт-Артур). Узнік бы глухі плот на сушы ад Балтыйскага мора да Чорнага. Дзе ж тут жарты!

Калі ў Бельведэры ўмеюць думаць, то павінны бачыць, што паслабленне беларускай самастойнасці скончыцца паўторам гісторыі: нямецкаму і расійскаму веліканам будзе Польшча лішне блытацца пад нагамі. Яна, вядома, не ў змозе супрацьдзеяць гнездаванню „Мішкі" над Прыпяццю і Дзвіною, але можа нямала ўчыніць, каб пачуваўся ён там не сваявольным гаспадаром. Нават таго ўжо дастаткова было б. Яго „дых у патыліцу" аддаліўся б, даўшы магчымасць не азірацца з панікай у тыл, маючы перад тварам, за Одраю, трэцюю па велічыні эканоміку свету.

Без паласы беларускай суверэннасці Польшча немінуча задыхнецца ў берлінска-маскоўскіх абцугах. Не пазадровіцца і Украіне, кола акружэння якой замкне Прыднястроўская Рэспубліка. Галіцкі перашыек ёй на Будапешт і Вену дзіка-голы інфраструктураю; Славаччыну каркуе Чэхія.

Палякі чамусьці не заўважаюць, што заўсёды кідалі іх на калені, калі падалі партнёры за Бугам. Палітычная дурнота і бяда! І наша разам з імі. Яны ўпершыню за сваю гісторыю мусяць усяляк успамагчы ўваскрашэнне беларусаў, замест, як дагэтуль, радасна распінаць нас у кан'юнктурнай супольцы з нялюбым ім славянскім братам.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

## ЗА ГЭТА ПЛАЦЯЦЬ ГРОШЫ

**Ганна Кандрацюк размаўляе з візітатарам па беларускай асвеце на Беласточчыне ТАМАРАЙ РУСАЧЫК.**

**Ганна Кандрацюк:** — *Як ацаняеце стан беларускай асветы на сённяшні дзень?*

**Тамара Русачык:** — Сітуацыя, у якой апынулася беларуская асвета не надта цікавая. З кожным годам памяншаецца колькасць дзяцей, якія вывучаюць родную мову. Тут трэба таксама зазначыць, што памяншаецца ўвогуле колькасць дзяцей у вясковых школах. Аднак у апошнія гады назіраецца сур'ёзны заняпад вывучэння беларускай мовы.

— *Чым тлумачыць такую сітуацыю?*

— Тлумачыць гэта трэба нізкай свядомасцю беларускага насельніцтва. На ўрокі ходзяць дзеці тых бацькоў, якія адчуваюць сябе свядомымі беларусамі і якія лічаць, што ўсё ж такі, іх дзеці павінны ведаць і літаратурную мову і пазнаёміцца з беларускай культурай, з абрадамі. Аднак такіх бацькоў не надта многа, і гэта навявае вялікі сум. Для мяне асабіста гэта найбольш сумнае, бо няма ў свеце такога другога народа, якому перашкаджае родная мова.

— *Беларусы не маюць сваёй школы. Усе школы польскія, беларуская мова выступае як дадатковы прадмет, пераважна па прынцыпу добраахвотнасці. Не думаеце, што гэта можа быць галоўнай прычынай заняпаду беларускай школы?*

— Беларусы не хочуць беларускай школы. І гэта таксама сумная справа. Хочуць украінцы, хочуць славакі, хочуць літоўцы. А беларусы не хочуць. Увогуле, калі гаворыш пра беларускую школу, то глядзяць на цябе як на ненармальнага чалавека. Людзі мне часта ставяць такія пытанні: „На што ж гэтая беларуская мова?", „Каму яна патрэбная?".

— *Я якраз сустрэлася з бацькамі (гэта былі інтэлігенты), якія хацелі б беларускай школы для сваіх дзетак.*

— Можа вы папалі на такіх, але іх няма многа. Бо калі б было іх многа, дык гэтая беларуская школа была б. З боку асветных улад няма ніякіх перашкод. Калі будуць жаданні, такую школу стварыць вельмі лёгка. Калі будуць настаўнікі, якія здолелі б весці ўрокі па-беларуску, калі будуць хацець гэтага многія бацькі. А ў нас, на жаль, гэта адзінкі.

— *Ці пераход школ пад управы гмін будзе спрыяць навучанню беларускай мовы?*

— Трэба спадзявацца паправы.

— *Прыклад Нараўскай гміны не выклікае энтузіязму. У некаторых школах беларускую мову вывучаюць выпадковыя настаўнікі.*

— За гэта адказны войт. Гаварыце з войтам.

— *А вы, як візітатар па беларускай*

☞ *Працяг на стар. 5*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Ma rację ks. prałat Piotrowski twierdząc, że Białorusini są nacją napływową, z racji takiej a nie innej polityki caratu — Polaków na Sybir, a swoimi zasiedlać zagarnięte ziemie Rzeczypospolitej. Car zwalczał ogniem i mieczem Kościół Rzymskokatolicki i jego wyznawców. Ludzie pochodzenia białoruskiego przemilczają skąd przyszli — a szkoda. Są to bowiem potomkowie tej napływowej masy ludzkiej z okresu panowania caratu, z czasów carskich.*

*Białorusini niech pamiętają, że nie są u siebie na Białorusi, a tylko w granicach Państwa Polskiego, którego tolerancji nadużywać nie wolno. Granice państwa są otwarte i komu nie smakuje polski chleb, komu się nie podoba polskie niebo i ziemia — wolna droga. Jestem katolikiem i szanuję ludzi innych wyznań.*

*(Kurier Poranny, nr 223)*

**Так больш-менш выглядаюць уяўленні палякаў Беласточчыны пра талерантнасць і дэмакратыю. Галоўнай крыніцай ведаў і маральнасці для іх з'яўляецца ксёндз Пятроўскі і яму падобныя спадары.**

* * *

*Biuro każdemu posłowi jest potrzebne, aby mógł wreszcie zatrudnić żonę, ciotkę, szwagra, narzeczoną. Potrzebne jest także dlatego, aby te nędzne 25 milionów, które budżet państwa daje co miesiąc na prowadzenie takiego biura, nie przeciekały w niepowołane ręce, aby kwitł rodzinny interes lub gospodarstwo oraz po to, aby ostatecznie przekonywać, że posła nie ma, bo ślęczy nad ustawą, klęczy nad konkordatem, pochyla się nad aborcją lub głosuje... Posłowi społeczeństwo potrzebne jest tylko raz na cztery lata. W dniu wyborów. Czasem częściej, bo sejmy czteroletnie to u nas ostatnio rarytas.*

*Policzmy: dieta poselska — 6 mln, jeśli zrezygnuje z pracy zawodowej, dostanie jeszcze 8 mln i na prowadzenie biura 25 mln. Razem — bagatelka — 39 mln. Za takie pieniądze to ja mogę obiecywać emerytom i rencistom, że do końca swoich dni nie będą musieli oglądać lekarza ani szpitala. Nie będą mieli żadnych kłopotów z opałem. Po prostu cały węgiel wyśle się za granicę, aby mieć na utrzymanie biur poselskich, diety i pensje parlamentarzystów.*

*(Gazeta Współczesna, nr 224)*

* * *

*Mieszczaństwo w Europie Zachodniej kształtowało się przez setki lat. W Polsce z różnych powodów było śladowe. Taka grupa społeczna tworząca w Polsce warstwę średnią istniała w Polsce międzywojennej. Znaczną jej część stanowił element żydowski wymordowany przez Hitlera. Obecni mieszkańcy miast to wczorajsi chłopi. Sporo jeszcze wody upłynie w Wiśle, zanim obecni chłopi wydzielą z siebie warstwę statecznych mieszczan.*

*(Polityka, nr 47)*

**Усе нашыя Тэрэсы і Яніны, якія раней называліся Тамарамі і Нінамі, родам з-пад Гарадка, Гайнаўкі, Кляшчэляў, Сямяціч з'яўляюцца жыхарамі горада ўжо нават каля 30 гадоў. Называць іх халопамі — гэта ўжо непрыстойнасць.**

* * *

*Niebawem może być zlikwidowana białostocka Izba Wytrzeźwień.*

*(Gazeta Współczesna, nr 221)*

**Шкада, бо нідзе столькі вясёлых людзей не спаткаеш, чым там.**

* * *

*Jest faktem oczywistym, że stosunki ze stolicą Apostolską mają w Polsce specjalny charakter i rząd powinien je kontynuować. To jest poza dyskusją,* — сказаў пасол і віцэ-прэм'ер Владзімеж Цімашэвіч.

*(Polityka, nr 47)*

**На Цімашэвіча галасавала каля 50 тысяч беластоцкіх беларусаў.**

* * *

*Święto Niepodległości złodzieje w Białymstoku uczcili włamaniem do magazynu z bronią, skąd zabrali kilkadziesiąt pistoletów i karabinów.*

*(Kurier Poranny, nr 223)*

**Нават найбольш тупы вучань ведае, што ўсе нацыянальныя героі сваю патрыятычную дзейнасць пачыналі з пісталета. Моладзь таксама хоча ўвайсці ў гісторыю, мае добрыя прыклады і ведае што робіць. Магчыма, што за пару дзесяткаў гадоў гэту пакражу гісторыкі будуць прадстаўляць як гераічны чын. Невядома, хто тады будзе пры ўладзе і якія вартасці будуць цаніцца.**

* * *

*Kniaź Anatol Massalski z Lublina ogłosił się pretendentem do tronu Ukrainy... Książę Anatol jeszcze do niedawna był hydraulikiem w szpitalu wojskowym. W porę zdążył zmienić pracę. Wolę być palaczem — tłumaczy — to czyściejsza praca — a hydraulik wiadomo, zawsze zapcha się jakaś ubikacja. Ja nie jestem nacjonalistą — zapewnia książę Massalski — chcę żyć w zgodzie z arystokracją rosyjską i polską szlachtą także.*

*(Polityka, nr 47)*

* * *

***Хто ўзначальваў КДБ Беларусі? Эдуард Шыркоўскі сказаў, што ён — 20-ты з чаргі начальнік рэспубліканскае службы ўнутранае бяспекі (ЧК-ГПУ-НКВД-КДБ). Хто былі яго папярэднікі? — Я магу, зразумела, ўспом- ніць — сказаў Шыркоўскі. — Я — першы беларус; было 9 расейцаў, 4 габрэі, 3 палякі, 2 латышы і адзін грузін.***

***(Беларус, н-р 404, Нью Ёрк)***

* * *

*Kobiety podeszły do leżącego mężczyzny i poczęły go kopać w twarz i głowę. Małgorzata miała na nogach buty, Hilda była boso. Przerywały na krótko, wracały do mieszkania, aby Hilda mogła umyć okrwawione nogi. Potem wracały i kopały dalej.*

*(Gazeta Współczesna, nr 222)*

**Гэта не фантазія з бульварнай літаратуры, гэта рэчаіснасць сённяшняга дня. 19-цігадовая Гільда і 22-гадовая Малгажата ў такі спосаб забілі незнаёмага мужчыну, які падпіўшы заблудзіў у будынку пры вул. Сянкевіча 5 у Беластоку. Дзеўкі забілі яго, бо мелі акурат ахвоту зрабіць нешта надзвычайнае.**

* * *

*Nie jest wykluczone, że w 1995 roku będziemy mieli nie tylko wybory prezydenckie, ale także nowe wybory parlamentarne.*

*(Rzeczpospolita, nr 272)*

**Нам — гэта не праблема. Кандыдатаў у паслы і сенатары ў нас дастаткова. Выбаршчыкаў таксама... каля 5 тысяч.**

## З мінулага тыдня

**„Шчаслівая Заходняя Еўропа** замыкаецца ў сваіх структурах і пакідае краіны Сярэдняўсходняй Еўропы ў няяснай сітуацыі. Можа гэта стаць прычынай адраджэння канфрантацыйных суадносін у Еўропе" — сказаў **Лех Валэнса** падчас сустрэчы з членамі Парламенцкай супольнай камісіі Польшчы і Еўрапейскай уніі. Прэзідэнт РП сцвердзіў, што хуткае эканамічнае і мілітарнае „павелічэнне" Еўропы — гэта неабходнасць, іначай сітуацыя ў сярэдняўсходняй частцы кантынента можа ўжо праз паўгода пагоршыцца з увагі на ўнутраныя праблемы Расеі. Прэзідэнт упікнуў парламентарыяў Еўрапейскай уніі ў тым, што дзяржавы „дванаццаткі" выкарыстоўваюць свае экспартныя магчымасці і „пхаюць колькі можна" ў Польшчу, але калі Польшча хоча прадаць нешта канкурэнтнае, тады гавораць: „не!". „Гэта — нацыяналізм" — сказаў Лех Валэнса.

**III Канферэнцыя Усход — Захад** адбудзецца ў маі 1994 года ў Варшаве. Прымуць у ёй удзел міністры гаспадаркі, прамысловасці і гандлю самых багатых краін групы Г-7, Вышаградскай групы, Беларусі, Казахстана, Расеі, Украіны, а таксама (упершыню) Балгарыі і Румыніі. Перад Польшчай канферэнцыі старшынствавалі Нямеччына і Японія.

**Ген. Нікалай Галушка, міністр бяспекі Расеі,** пабываў з афіцыйным візітам у Польшчы па запрашэнню міністра ўнутраных спраў **Анджэя Мільчаноўскага**. Мэта візіту — абмеркаванне супрацоўніцтва абедзвюх дзяржаў у галіне барацьбы са злачыннасцю. Ген. Галушка быў прыняты прэзідэнтам **Лехам Валэнсам**, маршалкам Сейма **Юззэфам Алексым** і прэм'ер-міністрам **Вальдэмарам Паўлякам**.

**Амаль 23 працэнты тэрыторыі Беларусі забруджаны радыеактыўнымі** рэчывамі ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС у 1986 годзе. На нядаўна састаўленай карце забруджанымі былі палічаны тэрыторыі, якіх узровень радыяцыі не меншы чым 1 кюр на 1 кв. кіламетр. Незалежна ад тэрыторыі Беларусі, забруджаны 5,2 прац. абшару Украіны і 0,6 прац. Расеі. Найбольш забруджанымі абласцямі лічацца: Гомельская і Магілёўская (Беларусь), Жытамірская, Роўненская і Кіеўская (Украіна), а таксама Бранская, Тульская і Арлоўская (Расея).

**Прадстаўнікі вольных прафсаюзаў Беларусі — іх старшыня Генадзь Быкаў** і шэф магілёўскай арганізацыі **Сяргей Абадоўскі** прабывалі ў Беластоку па запрашэнню мясцовых улад „Салідарнасці". Беларускіх прафсаюзнікаў цікавілі механізмы функцыянавання прафсаюзаў у Польшчы, іх структура, фінансы, а таксама праца юрыдычных і эканамічных службаў.

**Граф Аляксандр Прушынскі** направіў нядаўна афіцыйны ліст старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, у якім прэм'ер-міністра цяперашняга ўрада палічыў няздольным вывесці краіну з крызісу і прапанаваў сваю асобу на яго месца. Правёў ён таксама асаблівы рэферэндум: жыхары Менска маглі выключыць на 15 мінут святло ў суботу (27 лістапада) а гадз. 20.00, калі хацелі падтрымаць графа ў ягоных стараннях за пост ужо не прэзідэнта РБ, а толькі прэм'ер-міністра рэспублікі. Пра гэтую акцыю ведалі 160 тысяч жыхароў беларускай сталіцы, дзякуючы адмысловым лістоўкам. Вынікі „рэферэндуму" цяжка ўстанавіць, паколькі ў гарадской энергадыспетчарскай не зафіксавалі ў той час заўважальнага спаду спажывання электраэнергіі.

**Дадатковымі выхаднымі днямі** (нерабочымі) **у 1994 годзе будуць:** 8, 15, 29 студзеня; 5, 12, 26 лютага; 5, 12, 19 сакавіка; 2, 16, 23 красавіка; 2, 14, 28 мая; 11, 18, 25 чэрвеня; 2, 9, 23, 30 ліпеня; 6, 13, 27 жніўня; 3, 10, 24 верасня; 1, 8, 22, 31 кастрычніка; 12, 19, 26 лістапада; 10, 24, 31 снежня.

**У пецярбургскім музеі антрапалогіі і этнаграфіі адкрылася нядаўна жахлівая выстаўка.** На ёй паказваюцца экспанаты з калекцыі Пятра Вялікага. Гэта перш за ўсё закансерваваныя ў фармаліне пачварныя дзеці (сірэны, цыклопы), рукі, сэрцы, ныркі, мазгі... Пры дапамозе такіх экспанатаў цар хацеў даказаць сваім сучаснікам, што анамаліі — гэта права натуры, а не вынік нябеснага пакарання або сужыцця з д'яблам. У той час маці ненармальных дзяцей абвінавачваліся ў палавых зносінах з жывёламі. Калекцыя Пятра Вялікага пачала паўставаць у 1717 годзе. Да нашага часу захавалася каля тысячы экспанатаў.

## Праз тыдзень у „Ніве"

- Штодзённае жыццё жыхвроў беларускай вёскі.
- Кашмарная гісторыя сям'і ў адной з пушчанскіх гмінаў.
- Жыціе Святога Серафіма.
- Галерэя пушчанскіх дзіваў.

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### ДОМ УРАДА БАЯЎСЯ СТРАЦІЦЬ УЛАДУ

Як высветлілася, раніцай у дзень адкрыцця сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь (9 лістапада) двор перад Домам урада быў поўны салдатаў унутраных войск, два з шасці бронетранспарцёраў, якія таксама знаходзіліся тут, мелі поўны баявы камплект.

Аб гэтым прадстаўнікі КДБ загадзя паведамілі спікеру парламента Станіславу Шушкевічу. Яго ж такі „клопат" зусім нечакана для выканаўцаў акцыі вельмі абурыў. Праз паўтары гадзіны чатыры бронетранспарцёры пакінулі двор Дома ўрада, але з раніцы да вечара плошча Незалежнасці ўсё ж знаходзілася пад прыцэлам снайпераў, якія размясціліся на дахах Дома ўрада, Педагагічнага і Беларускага дзяржаўнага універсітэтаў.

Уваход да кабінета прэм'ер-міністра В. Кебіча ахоўваўся групай аўтаматчыкаў.

Дзякуй разважлівасці і міралюбнасці людзей на плошчы, якія не дазволілі тым, хто сабраўся ў гэты дзень ля Дома ўрада, паддацца на правакацыю і распачаць штурм цытадэлі Кебіча.

### НЯХАЙ МАНУ РАЗВОДЗІЦЬ ХЛУС

Амаль 200 дэлегатаў удзельнічалі ў II з'ездзе Беларускага згуртавання вайскоўцаў — патрыятычнай арганізацыі, якая была створана па ініцыятыве менскіх афіцэраў два гады таму назад.

Быў прыняты шэраг рэзалюцый, сярод якіх — заклік да грамадскасці і міжнароднай супольнасці звярнуць увагу на віленскае пытанне і заява аб тым, што Беларускае згуртаванне вайскоўцаў (БЗВ) не мае ніякага дачынення да лістовак з заклікам да ўзброенага паўстання, распаўсюджаных на Беларусі на пачатку лістапада.

Было засведчана, што гэтая арганізацыя (яна, дарэчы, налічвае ўжо каля 3 тысяч актыўных сяброў) мае добрыя шанцы пашырыць свой уплыў у грамадстве, а таму і падставы чакаць новых правакацый супраць БЗВ з боку ўрада і вайсковай вярхушкі.

### РАСЕЙСКАЯ ЗБРОЯ НЕ БУДЗЕ ПАТРЭБНАЙ

З ратыфікаваннем 25 лістапада Дагавора паміж урадамі Рэспублікі Беларусь і Расейскай Федэрацыі аб статусе расейскіх вайсковых фарміраванняў з саставу стратэгічных сіл, часова размешчаных на тэрыторыі Беларусі, і пагаднення аб парадку вываду названых фарміраванняў зацверджаны графік іх перадыслакацыі.

Згодна з ім, расейскія войскі сувязі, інжынерыя, сухапутныя і паветрана-дэсантныя, а таксама часці Галоўнага разведвальнага ўпраўлення расейскага войска будуць выведзены да канца 1993 года. У 1994 годзе такі ж лёс напаткае часці радыёэлектроннай барацьбы, у 1995 — часці ваенна-паветраных сіл і сувязі цэнтральнага падпарадкавання, у 1996 — ракетныя войскі стратэгічнага прызначэння. Апошнімі (у 1999 годзе) пакінуць Беларусь часці войск процілаветранай абароны і марскога флоту.

### НАМ БЫ ТОЛЬКІ НОЧЧУ САБРАЦЦА

Старшыня камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па эканамічнай рэформе, дасягненню эканамічнай самастойнасці і суверэнітэту рэспублікі Леанід Козік песімістычна ацаніў магчымасць аб'яднання грашовых сістэм Расеі і Беларусі, заявіўшы, што адзінае выратаванне — увядзенне нацыянальнай валюты.

Праўда, па меркаванню Л. Козіка, Вярхоўны Савет не можа ўзяць на сябе такую адказнасць, а вось два-тры чалавекі (іх імёны засталіся таямніцай), якія сустрэнуцца ўначы і ўсё вырашаць, такімі паўнамоцтвамі надзелены.

### ЭНЕРГЕТЫЧНЫЯ КАНІКУЛЫ

Халады і энергетычны голад, што апанавалі апошнім часам Беларусь, прымусілі Міністэрства энергетыкі скласці графік, які прапаноўвае прадпрыемствам рэспублікі працаваць праз тыдзень.

Тлумачэнне занадта банальнае: у сувязі са слабым ацяпленнем кватэр рэзка ўзрасло ўжыванне электраэнергіі ў быце, больш таго недахоп арганічнага паліва абумовіў прымяненне электраабагравальных прыбораў і ў сельскай мясцовасці. Таму даводзіцца ісці на абмежаванне спажывання электраэнергіі ў прамысловасці.

Праўда, падчас вымушанага „адпачынку" ўся вытворчасць не спыняецца — найбольш энергаёмістыя цэхі ў „непрацоўны" тыдзень будуць вымушаны знізіць спажыванне энергіі за 60 працэнтаў, а цэхі дапаможнай вытворчасці будуць працаваць, як і раней.

### КОЖНЫ СОТЫ — ЗЛАЧЫНЦА

Паводле прагнозу Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі сёлета ў рэспубліцы будзе зарэгістравана стотысячнае злачынства. І гэта на 10 мільёнаў жыхароў. У той жа час за 1992 год праваахоўнымі органамі зафіксавана 96.637 злачынстваў.

У гэтым годзе ў ізалятарах часовага ўтрымання пабывала больш за 62 тысячы чалавек. Так што для задавальнення патрэб узрослай злачыннасці патрабуецца не менш за трыццаць новых такіх ізалятараў.

Дарэчы, і пры самім Міністэрстве ўнутраных спраў прыйшоў час адчыняць новую лячэбна-выпраўленчую ўстанову — каля 700 супрацоўнікаў міліцыі ў бягучым годзе былі прыцягнуты да адказнасці за п'янства. Толькі год назад гэтая лічба ўдвая меншая...

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# ПАНАРАМА НАРАЎСКАЙ ГМІНЫ

## (7)
## Асвета

У Нараўскай школе чатыры пачатковыя школы: у Нарве, Трасцянцы, Крыўцы і Ласінцы. Навучаецца ў іх 644 дзяцей. Найбольш у Нарве — ажно 440.

### Пачатковая школа ў Нарве

— адна з прыгажэйшых у Беластоцкім ваяводстве. У ёй дзевятнаццаць аддзяленняў, у тым ліку тры прадшкольныя, тры святліцы, сталовая. Кожны клас мае сваю залу. Ёсць гімнастычная і камп'ютэрная залы, лекарскі і стаматалагічны кабінеты, вучнёўскі кааператыў „Світанне" ды бібліятэка, у якой 6500 тамоў. Калідоры школы ўпрыгожвае жывапіс колішняга настаўніка ў Нарве Збігнева Будзыньскага, а зараз дырэктара адной з гайнаўскіх школ. Працуе тут 31 настаўнік — разам з настаўнікамі рэлігіі (праваслаўнай — яна тут дамінуе — навучае святар і матушка, а каталіцкай — святар).

У нараўскую школу ходзяць вучні ажно з семнаццаці вёсак, у тым ліку з Гародчына, Янова, Гозьнай, Сакоў, Адрынкоў, Рыбакоў, Даратынкі і Ваською. Многія з іх даязджаюць школьным аўтобусам.

У школе ажно дванаццаць камп'ютэраў, у тым адзін — падарунак мясцовай прадукцыйна-гандлёвай фірмы „Пронар". Апаратура выкарыстоўваецца як дапаможнік на некаторых уроках. З ёй найбольш працуе настаўнік Міхал Зубрыцкі.

У Нарве дзеці вучацца чатырох моў, у тым ліку англійскай, якой навучае амерыканка. Беларускай мове вучыць Ніна Абрамюк. Раз у тыдзень настаўніца вядзе ўрокі з „Нівай". Вучні пішуць пісьмы ў „Зорку" і ўдзельнічаюць у арганізаваных ёю конкурсах.

У школе дзейнічае клуб любіцеляў прыроды. Вядзе яго настаўніца біялогіі Надзея Асіпюк. Зараз дзеці займаюцца падкормліваннем птушак. Вучні апякуюцца куточкамі жывой прыроды ў класах.

Нараўскія школьнікі любяць спорт. Займаюць добрыя месцы ў міжшкольных спаборніцтвах (у апошнім часе ў настольным тэнісе ды па бегу на дыстанцыі з т.зв. „тэрэнавымі" перашкодамі). Заняткі па фізкультуры вядуць настаўнікі Анатоль Герман і Мікалай Якімюк.

Нараўскія дзеці ахвотна ходзяць на ўрокі танца, якія вядуць інструктары: Аляксандр Лойка з Гродна — у мясцовым Гмінным асяродку культуры і Віктар Томзік — у святліцы прадпрыемства „Пронар".

Ужо другі год вучні выдаюць газету „Усмешка школы". Рэдагуюць яе вучаніцы: Мажэна Русачык (галоўны рэдактар) ды Сільвя Карольчук, Юстына Янкоўская і Эльвіра Пашкевіч. Змест кожнага яе нумара цікавы. У ёй багата замалёвак з жыцця школы, інтэрв'ю, усялякіх навін з шырокага свету, з музыкі, спартыўныя весткі, крыжаванкі.

Вучні з Нарвы ахвотна ездзяць на экскурсіі ў Беласток, Белавежу і Варшаву. Наведваюць тэатры, кіно і музеі. Яны наведалі манастыр у Супраслі ды школу іканапісу ў Бельску-Падляшскім. Пабывалі на мастацкім пленэры ў маляўнічай аколіцы Козлікі, што ў Нараўскай гміне. На некаторыя экскурсіі ездзілі супольна са школьнікамі з Трасцянкі.

### У школе ў Крыўцы

... вучацца дзеці і моладзь з пяці вёсак, у тым ліку між іншым з Крыніцы, Падбаравіскаў, Прыбудкаў і Храбустоўкі. Колькасць вучняў такая самая як і ў мінулым навучальным годзе — 54. Трыццаць тры школьнікі ходзяць на ўрокі беларускай мовы. Вядзе іх настаўніца Надзея Міхальчук.

У гэтым навучальным годзе пачалі працаваць тры гурткі зацікаўленняў: беларускай мовы (вядзе яго настаўніца Надзея Міхальчук), мадэльшчыкаў і фотааматараў (настаўнік Яраслаў Іванюк) ды танцавальны (інструктар Віктар Старавойтаў з Гродна).

У школе добра працуюць: вучнёўскае самакіраванне, школьная ашчадная каса, Польскі чырвоны крыж і вучнёўскі кааператыў „Смык", у якім найбольш ахвотна на грамадскіх пачатках працуюць вучаніцы Галіна Леўчук і Яанна Макарэвіч. Вялікім зацікаўленнем карыстаюцца ўрокі малявання і мадэліравання, якія вядзе настаўніца Аліцыя Русіловіч. Лепшыя працы вучняў можна пабачыць на школьных выстаўках.

Сярод юнакоў ёсць вялікая цяга да спорту. Зараз у іх на першым месцы настольны тэніс. Якраз гэтай галіне спорту хлопцы прысвячаюць кожную свабодную хвіліну. Неўзабаве адбудуцца міжшкольныя спаборніцтвы па тэнісу. Можна спадзявацца добрых вынікаў.

У верасні і кастрычніку бягучага года ў крывецкай школе арганізоўвалі наступныя мерапрыемствы: абвяшчэнне вучнямі першакласнікаў, прывітанне восені ды свята печанай бульбы. У кастрычніку наладзілі харчаванне (булачкі і гарачую каву з малаком). І яшчэ: самыя здольныя вучні аказваюць сяброўскую дапамогу ў навуцы слабейшым.

У школе працуе бібліятэка, якая налічвае 4600 тамоў ды філіял публічнай бібліятэкі. У іх ёсць і беларускія кніжкі.

Ужо зараз вучні і настаўнікі рыхтуюцца да школьнай Навагодняй ёлкі. Поўным ходам ідзе падрыхтоўка мастацкай праграмы. Ужо вядома, што будуць вершы, песні, пастаноўкі сцэнічных твораў на беларускай і польскай мовах, а таксама танцы.

## „Рыбакоўка" запрашае

На тэрыторыі Нараўскай гміны працуе курортны асяродак „Рыбакоўка", які знаходзіцца ў лесе над ракою Нарвай, 6 кіламетраў ад шашы з Беластока ў Гайнаўку. Даехаць сюды можна таксама аўтобусам ПКС.

На берагу ракі пабудавалі два адпачынковыя дамы і пятнаццаць кэмпінгавых домікаў. Побач іх ёсць многа месца, дзе можна ставіць палаткі.

„Рыбакоўка" Гайнаўскага асяродка спорту і рэкрэацыі мае сталовую на сто месц і буфет, святліцу, пазычальню лодак і байдарак, веласіпедаў і іншага спартыўнага аснашчэння. Для ахвотных адкрыты тры спартыўныя пляцоўкі. Ёсць дзе пакупацца ды пазагараць на сонцы (над ракой травяністы і пясочны пляж). Тут цудоўны лясны мікраклімат. У лесе ёсць ягады ды грыбы, у рацэ — рыба.

ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ

# КАНЕЦ СВЕТУ, КАНЕЦ ВЁСКІ?..

Пэўна, канец свету ўжо хутка будзе. Усе прыкметы на гэта паказваюць. Даўно пра іх гаварылі: веру бацькоў пакідаць будуць, ілжэпрарокі аб'явяцца. Усё горш ды горш. Паглядзіце, што ў Кіеве рабілася! А ў Беластоку? Вось, напрыклад, прарок Яновіч прадказвае ўпадак сельскай гаспадаркі! Хто падумаў бы, што Сакрат такі стратэг і спецыяліст па земляробстве? Непатрэбныя яму эканамісты, усе працэнты сам аблічыў, што, як, да чаго. Калі б пра свае высновы не напісаў у „Ніву", народ і не ведаў бы, што горад корміць вёску. Што можа ведаць цёмны мужык? Вось такі Лепэр скакаў, скакаў ды даскакаўся! Думаў, пэўна, што яго горад корміць, і рашыў дапамагчы вёсцы, падаца ў паслы-дэпутаты. Калі б не вёска, бюджэт краіны быў бы большы, а то тая вёска ўсё зжарэ!

Вось хіба нашым сялянам і капіца. Вазьмі выберы такога ў парламент, такога, што ўсё пра вёску ведае, то праз пару год вёску даканае. Пачне толькі лес садзіць, а потым сялян у той лес загоніць. Бо што з такімі зробіш, з гэтымі дармаедамі?!. У горад жа яго не будзеш высылаць; у горадзе і гарадскія без работы ходзяць. Хто яшчэ беларусам застанецца, той, можа, пражыве, мяркуе С. Яновіч. А калі ягонае слова споўніцца, лес зашуміць вакол Беластока, і тады вось некатэрыя зажывуць! А Яновіч будзе ляжаць на палянцы пупам угару, абкладзены салодкімі канадскімі булачкамі, галандскім сырам і шакаладкамі з Альпійскіх гор. Вось будзе жыццё! І ў Беластоку не трэба будзе Амерыкі!

Але, па-мойму, так не будзе. Час патрабуе іншага. Далей будзем зямельку варочаць. І не толькі на Жулавах, але і каля Гайнаўкі. Горад далей „мусіць" нас карміць. І самі канадцы пачастуюцца, хоць рэдка, хлебам з нашае мукі. Няважна, якімі рукамі ён зроблены, беларускімі, польскімі ці ўкраінскімі. Каб толькі яго ўсім хапала! А вёска яшчэ няхутка прападзе! Лес пасадзіць можна, ды расце ён памалу, не зарасце нас! Жылі мы, і жыць будзем, дасць Бог. Толькі адна-го сабе можна было б пажадаць — улады добрае.

ГРЫША МАРОЗ

## Свята ў пенсіянераў у Нарве

23 лістапада бягучага года ў Гмінным асяродку культуры ў Нарве ўрачыста святкавалі Дзень сеніёра. Сабралася каля шасцідзесяці пенсіянераў, сакратар Нараўскай гміны Марыя Аврарчук, старшыня Праўлення аддзела Саюза пенсіянераў і інвалідаў у Гайнаўцы — Лідзія Панько, выступілі песенныя калектывы: „Тыневічанкі" з Тыневічаў Вялікіх ды жаночы квартэт з Макаўкі. Усіх гасцей, у тым ліку і прадстаўніка нашай рэдакцыі, пенсіянераў, а таксама мастацкія калектывы прывітала старшыня нараўскага гуртка сеніёраў Люцына Свенцкая.

І пачалося... Найперш выступілі фальклорныя аматарскія ансамблі. Паплылі прыгожыя беларускія, рускія і польскія песні, выкананыя на высокім мастацкім узроўні і з сардэчнай цеплынёй. Прыемна было мясцовым пенсіянерам успомніць маладыя гады, патанцаваць ды супольна паспяваць колішнія папулярныя песні.

За падрыхтоўку вечарыны дырэктару ГОК Ірэне Шастай і яе супрацоўніцам Лілі Хіліманюк ды Анне Андраюк, а таксама кіраўніцтву Гміннай публічнай бібліятэкі Алі Сяткоўскай за канцэрт, спонсарам за фінансавую дапамогу (а былі гэта між іншым Гміны асяродак грамадскай дапамогі і ўласнікі пякарні Веслаў і Ніна Якубоўскія) ды за пажаданні падзякавала ад імя пенсіянераў Л. Свенцкая.

(яц)




## У СЯМЯЦІЦКІМ НАВАКОЛЛІ

Сямяціцкая гміна займае плошчу ў 18430 гектараў. Налічвае яна 45 вёсак, у тым ліку 42 салэцкія. У сёлах пражывае 7438 чалавек. Глебы ў гэтай гміне наогул дрэнныя, найніжэйшых класаў. Па гэтай прычыне шматлікія гаспадары звольнены ад падаткаў, а гміна мае меншыя даходы.

Сёлета сяляне не мелі дзе прадаць бульбу, гародніну ды яблыкі. Перапрацоўчая прамысловасць практычна не існуе. „Гортэкс" знаходзіцца ў вельмі кепскай фінансавай кандыцыі, ліквідуе плантацыі фруктаў і агародніны.

Усё ж гмінныя ўлады могуць пахваліцца пабудовай водаправодаў: з Нарой-каў у Сківі і Цацэлі. Намераны пабудаваць гідрафорню і мясцовы водаправод у Толвіне. Прадбачваецца, што ўсе вёскі ў Сямяціцкай гміне будуць мець водаправоды да 1998 года. Калі пабудуюць газаправод з Мельніка ў Драгічын, тады некалькі вёсак будзе падключаных да газавай сеткі.

Адрамантавалі шматлікія адрэзкі гмінных дарог. У Чартаеве, Крупіцах, Каянцы і Баратынцы-Ляцкім паклалі тратуары. Адрамантавалі вясковыя святліцы ў Крупіцах і Вярцэні. Музычныя інструменты атрымалі вясковыя дамы культуры ў Шаршэнях і Баратынцы-Рускім. Зараз у некаторых вёсках ажно 80% жыхароў мае тэлефоны. Яны цяпер у кожным салэцкім сяле.

Гмінныя ўлады дапамаглі адрамантаваць школьныя будынкі ў Клекатове і Цацэлях. Транспарт вучняў у школы каштуе гміну паўмільярда злотых у год.

У Сямяціцкай гміне ёсць восем пачатковых школ ды Сельскагаспадарчы тэхнікум у Чартаеве. Гміннае ўпраўленне паклапацілася пра аснашчэнне школ у Шаршэнях і Чартаеве. Закупілі ім абсталяванне за 130 мільёнаў злотых. Асяродак здароўя ў Сямяціцах атрымаў на свае патрэбы 50 мільёнаў злотых. Дзякуючы гэтай дапамозе можа ён працягваць сваю дзейнасць.

Сёлета пастаяннай дапамогай грамадскай апекі карыстаецца дваццаць асоб і хуткай (неадкладнай) — дзвесце. Прадназначылі на яе 575 мільёнаў злотых з гмінных фінансавых сродкаў ды з датацыі Ваяводскай управы.

Вось такімі больш-менш справамі жыве Сямяціцкая гміна. Атрымала яна самастойнасць у красавіку мінулага года. Цяпер больш грошай можа выдаткоўваць на патрэбы той ці іншай вёскі, бо атрымоўвае большыя датацыі.

(яц)

Вяртаючыся да надрукаванага

## ПАПРЫГАЖЭЎ ГАЙНАЎСКІ ДОМ КУЛЬТУРЫ...

У першым лістападаўскім нумары „Нівы" ў мінулым годзе пра капітальны рамонт Гайнаўскага дома культуры Пётр Байко пісаў так: „Надта змяніўся выгляд глядзельнай залы (340 месцаў), зразумела — на лепшае. Яна пасвятлела, стала больш утульнай. Зменена ў ёй электраўстаноўку, якая функцыянiравала без больших рамонтаў амаль сорак гадоў. Дайшло ўжо нават да таго, што аднойчы падчас спектакля быў паражаны электратокам адзін з выканаўцаў. Публіка нават не ведала аб жахлівасці гэтай сітуацыі. У зале змянілася таксама кінатэхнічная ўстаноўка. На жаль, кінасеансаў у гэтым годзе не будзе, бо няма яшчэ некаторай апаратуры і грошай, каб яе купіць і ўстанавіць. — Праўдападобна ў наступным годзе ўдасца нам вырашыць гэтую справу, — абяцае дырэктар ГДК Мікалай Бушко. — Рамонт адкрыў нам магчымасць пачаць старанні ў гэтым напрамку".

Прайшоў год з таго часу і... кінасеансаў няма. Чаму так сталася? Запрашаем дырэктара М. Бушко ўзяць голас. Адказ на пастаўленае пытанне зацікавіць перш за ўсё жыхароў Гайнаўкі ды шырокай Гайнаўскай акругі, у якой няма ніводнага кіно.

Я. Ц.

## НІЧОГА НОВАГА, НЕ ХВАЛЮЙЦЕСЯ!

Не веру ў паспяховасць палемікі, аднак на перадрукаваныя ў „Ніве” „Problemy z sąsiadami” — інтэрв'ю каталіцкага духавенства — вырашыў адрэагаваць. Справа ў тым, што я сам ведаю дзве згаданыя ў артыкуле асобы і не раз гутарыў з імі. Усё гэта было шмат гадоў таму, калі ў якасці архірэйскага прадстаўніка я меў „прыемнасць” бываць у каталіцкай Курыі, у Семінарыі і часам выступаць з экуменічнымі прамовамі ў касцёле. Памятаю, што хадзіў па загаду, без аніякай ахвоты і з нязменным пачуццём збянтэжанасці і заклапочанасці. Заўсёды адчуваў я ўтоеную зняважлівасць да сябе, хаця пад маскай „экуменічнай” ветлівасці. Калі нават здарылася мець нядрэнную прамову, усе віншавалі, паціскалі мае рукі, але намякаючы на незвычайнасць такой з'явы, зразумела, на фоне цёмных, зарослых „папоў”. Здараліся і тэалагічныя дыспуты але, не прэтэндуючы на надзвычайныя веды, у мяне ўзнікала ўражанне, што гэтыя, несумненна адукаваныя людзі, аб Праваслаўі нічога не ведаюць. Калі вясковая жанчына сцвярджае, што Маці Божая была полькай, дык можна паўстрымацца ад рэплікі. Аднак калі рэктар і выкладчык семінарыі гавораць рэчы ў падобным стылі, дык гэта ўжо іншая справа. Глупства з няпраўдай непрымальныя ў выпадку інтэрв'ю перш за ўсё таму, што гэта не выказванне вясковай бабы але „афіцыйных прадстаўнікоў Касцёла”, выхаваўцаў маладых ксяндзоў, якія акрамя таго нарадзіліся на Беласточчыне. У адкрытым лісце БГКТ і Праваслаўнага брацтва да каталіцкага Архіепіскапа Шымэцкага слушна падкрэсліваецца, што амаль кожны сказ у інтэрв'ю — свядомая і несвядомая хлусня або паклёп. Возьмем толькі адзін прыклад, фармулёўку „пасляуніяцкі манастыр”, які ў рэшце рэшт, пасля шматгадовых намаганняў быў вернуты законнаму ўласніку — Праваслаўнай Царкве. У гісторыі Супрасльскага манастыра быў сапраўды уніяцкі перыяд. Але ж Вроцлаў, Шчэцін, Мазуры шмат стагоддзяў належалі Нямеччыне, аднак іх чамусьці не акрэсліваецца „нямецкімі”, толькі „вернутымі” землямі. Гэта той шырока каментаваны менталітэт персанажа Калі з кніжкі Генрыка Сянкевіча „У пустыні і ў пушчы”. Аб гэтым можна было б напісаць бібліятэку. Такі менталітэт характарызуе „светачаў” каталіцкага духавенства ў Беластоку...

Кожны мае права любіць сваё — Бацькаўшчыну, веру, традыцыі. Можна ганарыцца першым палякам — Рымскім Папам, можна быць перакананым ва універсальнасці каталіцызму, але гэта пачуцці і асабістыя меркаванні. Ёсць неаспрэчныя гістарычныя факты, таксама ў дачыненні да Праваслаўя на Беласточчыне. Пра ўсё можна лёгка даведацца, прачытаць, але вось галоўная праблема ў тым, што каб пазнаць праўду, трэба гэтага хацець. Значна прыемней заставацца ў стане душэўнага самазадавальнення. Я асабіста даўно пераканаўся, што згаданыя ў артыкуле людзі праўды нават не хочуць чуць. Яны трымаюцца даўно сфармаваных стэрэатыпаў і гэтак выхоўваюць семінарыстаў. На іх думку ўсё, акрамя каталіцызму, гэта не вартыя ўвагі дадаткі, а Польшча — авангард каталіцызму. Гэта часткова нацыянальная хвароба — манія вялікасці, месіянства ў духу Міцкевіча, абсурднае перакананне аб сваёй выключнасці. Праваслаўны Усход, патрыстыка, філасофія, містыка, Саборы, мастацтва — для гэтых тэолагаў калі нават і былі, дык у часах непадзеленага хрысціянства, перад схізмай, значыць — яно супольнае, каталіцкае. Праваслаўе — гэта расейшчына. Маскоўскія цары вывозілі палякаў у Сібір і прывозілі сюды праваслаўных. Беларусаў наогул ніколі не было. Не было таксама Вялікага княства Літоўскага, толькі Польшча „ад мора да мора”. Паўстрымаюся ад далейшага пераліку, бо пачынаю раздражняцца. Лепш вярнуцца да прынцыповага пытання: чаму гэтыя адукаваныя людзі маюць конскія шоры на вачах, чаму ўпорыста трымаюцца такой бязглуздзіцы, добра ведаючы, што беларусы на Беласточчыне былі і „перад 89-м годам”, бо ж яны самі нарадзіліся сярод іх. Адказ вельмі просты: гэта комплекс ураджэнцаў памежжа, якія намагаюцца быць лепшымі палякамі і католікамі за карэнных палякаў. Між іншым гэтым яны „даказваюць сваю польскасць”, двайной руплівасцю. Такім быў, народжаны ў Сухаволі святой памяці ксёндз Ежы Папялушка, якога паважаю, але які пацвярджае мой тэзіс.

Разумею, што праваслаўным беластачанам нялёгка жыць у такім запаведніку нахабнага каталіцызму, які гаспадару адмаўляе спакойна жыць у сваёй хаце, на зямлі сваіх дзядоў і прадзедаў, на якой яны жылі ад стагоддзяў і якіх маскоўскія цары не прывезлі сюды з Расеі. Грамацеі з каталіцкай Курыі самі знойдуць праваслаўных продкаў і ў сваіх сем'ях: яны не прыбылі сюды з Італіі...

Выказванні ў інтэрв'ю ў „Госцю нядзельным” абуральныя перш за ўсё таму, што яны ў нейкай ступені **а ф і ц ы й н ы я**. Яны несправядлівыя, нетактоўныя, неэкуменічныя. Мы павінны рэагаваць на падобныя недарэчнасці, але з другога боку, ведаючы рэаліі, не варта псаваць сабе нерваў. Гэтулькі ўжо было і будзе хлусні і паклёпаў, што не варта празмерна пераймацца імі. Мы павінны зразумець, што мы не жывем у нармальным каталіцка-праваслаўным асяроддзі, напрыклад у ЗША, Нямеччыне ці Францыі; мы жывем на Беласточчыне. Гэта ўсё тлумачыць...

Каб паправіць чытачам настрой прыгадаю, што Захад наогул лічыць палякаў „добрымі католікамі, але дрэннымі хрысціянамі”. Гэта найбольш фармальная, павярхоўная пабожнасць у свеце. На Беласточчыне яны могуць далей свайго носа нікога і нічога не бачыць, але хай ведаюць, што, напрыклад, у Амерыцы не аб неграх, расейцах або беларусах, рагочучы, расказваюць анекдоты „поўліш джоўк”. Ды і не толькі ў Амерыцы сто разоў лепш сказаць, што вы — праваслаўны беларус.

Дык давайце паставімся вышэй падобных да згаданага артыкула выказванняў і застанемся з пачуццём слушнай годнасці пры сваім — пры сваёй нацыянальнасці і веры.

**а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК,**
**Мюнхен**

## УШАНАВАННЕ 440 ГАДАВІНЫ РЭФАРМАЦЫІ Ў БЕЛАРУСІ

На працягу двух дзён (23 — 24.X.1993 г.) у Менску працавалі ўдзельнікі Міжнароднай навуковай канферэнцыі, якая была прысвечана чатырыста сарака гадам Рэфармацыі ў Беларусі. Мабыць, ніколі яшчэ дагэтуль на тэрыторыі Беларусі не праводзілася навуковае мерапрыемства, прысвечанае такой мэце. На працягу некалькіх соцень гадоў не было такой магчымасці з прычыны дамінуючай пазіцыі праваслаўя і каталіцызму на Беларусі — веравызнанняў, якія праграмна адносіліся да Рэфармацыі варожа; пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі — з увагі на варожасць існуючай сістэмы да ўсіх рэлігійных канфесій. Сённяшнія ўлады Рэспублікі Беларусь аднолькава адносяцца да ўсіх рэлігій і пакуль што не ўмешваюцца ў рэлігійнае жыццё. Улады гэтыя не перашкаджаюць такім захадам і імпрэзам, якія імкнуцца да папулярызацыі або вывучэння паасобных рэлігійных вучэнняў у гісторыі і ў сённяшнім дні Беларусі.

Дзякуючы новым умовам, была склікана навуковая канферэнцыя па ініцыятыве Беларускага эвангелічнага рэфармацкага збору і Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны.

Да ўдзелу ў канферэнцыі было запрошаных больш дваццаці даследчыкаў з Беларусі, Польшчы, Расіі, Літвы, Латвіі, Эстоніі і Украіны. Праўда, не ўсе запрошаныя дакладчыкі прыехалі. Аднак тыя, што прыехалі, цалкавіта запоўнілі двухдзённую праграму канферэнцыі.

Для прыкладу прыводжу некаторыя з прадстаўленых дакладаў:

— Анатоль Грыцкевіч (Менск) — Дзейнасць Віленскага сінода рэфармацыйных цэркваў у Вялікім княстве Літоўскім,

— Лявон Ліпень (Менск) — Кароткі гістарычны нарыс Рэфармацыі ў Беларусі. Сучасны стан рэфармацыйный царквы „Unitas Lithuaniae”,

— Уладзімір Казбярук (Менск) — Эпізоды з гісторыі барацьбы контррэфармацыі з Рэфармацыяй,

— Адам Мальдзіс (Менск) — Кантакты Ф. Скарыны з рэфармацыйным рухам. Міфы і рэальнасць,

— Эўгеніюш Іванец (Лодзь) — Рэфармацыя і стараабрадцы: культурна-выдавецкія кантакты,

— Юры Лабынцаў (Масква) — Беларуская пратэстанцкая эміграцыя ў Заходняй Еўропе і яе ўклад у развіццё ўсходнеславянскай культуры новага часу: Ілья Капіевіч,

— Мікола Крукоўскі (Менск) — Ідэя Рэфармацыі і сучаснае грамадства ў святле сацыялогіі Макса Вебера.

У першы дзень канферэнцыі выступаў з дакладам таксама і я. Гаварыў на тэму: „Заходнееўрапейскія рэфарматарскія ідэі і творчасць беларускіх пісьменнікаў (Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Фёдар Еўлашэўскі)”.

На праграму злажыліся таксама паездкі ўдзельнікаў канферэнцыі ў мясцовасці, дзе знаходзяцца святыні, якія належалі калісьці беларускім рэфарматарам. Усе прысутныя са смуткам канстатавалі, што святыні гэтыя ёсць або ў стане глыбокага фізічнага ўпадку, або знаходзяцца ва ўладанні іншых, чым пратэстанцкія, веравызнанняў.

Практычна, усе дакладчыкі пацвердзілі згодна вядомую думку аб тым, што Рэфармацыя і звязаныя з ёю пратэстанцкія рэлігійныя напрамкі былі рэакцыяй на манапольную пазіцыю Каталіцкага касцёла і папства ў Заходняй Еўропе. Староннікі Рэфармацыі заклікалі да вернай інтэрпрэтацыі Бібліі. Выступалі супраць надмернага ўзбагачэння Каталіцкага касцёла, супраць ідэі беспамылковасці рымскага папы, супраць умешвання касцёла ў дзяржаўныя справы. Рэфарматары змагаліся за свабоду сумлення чалавека і за права на свабодны выбар людзьмі такога рэлігійнага вызнання, якое ім адпавядае.

Большасць дакладчыкаў канцэнтравала сваю ўвагу на лёсах Рэфармацыі на беларускіх землях. Падкрэслівалі яны, што пратэстанцкія напрамкі ў Беларусі былі скіраваны галоўным чынам супраць Каталіцкага касцёла. Аднак нярэдка пратэстанты выступалі супраць Праваслаўнай царквы. Дакладчыкамі былі прадстаўлены біяграфіі найбольш стойкіх і паслядоўных барацьбітоў рэфарматарскіх ідэй у Беларусі.

Выхадзец з Беласточчыны, навуковы супрацоўнік Беларускай акадэміі навук Уладзімір Казбярук прадставіў у сваім дакладзе шматлікія факты, звязаныя з жорсткай барацьбой касцёла з пратэстантамі ў перыяд так званай контррэфармацыі, якая ў канцы давяла да ўпадку большасць пратэстанцкіх збораў на тэрыторыі ўсёй Беларусі.

Я, аналізуючы спадчыну беларускіх пісьменнікаў-пратэстантаў, звярнуў увагу на такія рысы іх творчасці як: талерантнасць, вялікую патрыятычную прывязанасць да роднай зямлі і роднай мовы, варожыя адносіны да войнаў, культ працы, ідэю свабоды сумлення кожнай асобы, трактоўку як брата кожнага чалавека.

Трэба сказаць і тое, што з боку прадстаўніка Беларускага евангелічнага рэфармацкага збору Лявона Ліпеня выступіла пэўная ідэалізацыя прадстаўнікоў рэфарматарскіх веравызнанняў у мінулым. Пярэчыць гэтаму тое, што адзін з галоўных ідэолагаў рэфармацыі, Лютэр, прымяняў жорсткія метады барацьбы са сваімі праціўнікамі. І аб гэтым таксама нельга нам забываць, калі гаворым аб шматлікіх злачынствах, якія часта характарызавалі паступкі ворагаў Рэфармацыі.

Канчаючы, прагну паінфармаваць, што сёння беларускія пратэстанты адроджваюцца са стану глыбокага ўпадку, змагаюцца з аграмаднымі матэрыяльнымі, арганізацыйнымі і адміністрацыйнымі цяжкасцямі.

Удзельнікі канферэнцыі згодна падкрэслівалі, што рэфармацыйныя напрамкі ў Беларусі з'яўляюцца састаўной часткай нашай гісторыі і што вымагаюць яны эфектыўнага і грунтоўнага вывучэння з боку даследчыкаў.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

## БЕЛАРУСЬ І ЯЕ СУСЕДЗІ

Нядаўна паказалася ў продажы кніжка Юзэфа Дарскага „Białoruś. Historia, współczesność, konflikty narodowe”, у якой аўтар дае асноўныя адказы на пытанні, кранаючыя гісторыю і сённяшнюю палітычную сітуацыю ў Беларусі. Кніжка напісана для польскага чытача, якога аўтар слушна лічыць прафанам у беларускіх справах. Таму менавіта змест кніжкі пачынаецца з асноўных энцыклапедычных інфармацыяў.

Юзэф Дарскі ў васьмідзесятых гадах быў супрацоўнікам некалькіх легальных і нелегальных часопісаў. З 1986 г. стварыў беларускую і ўкраінскую хронікі ў парыжскім польскамоўным месячніку „Культура”. У 1988 годзе на хвалях радыёстанцыі „Вольна Еўропа” рэдагаваў радыёперадачу „У нашых суседзяў”.

Пішучы пра гісторыю Беларусі, Дарскі стараўся быць аб'ектыўным, хаця ў некаторых месцах па-рознаму гэта выйшла. Беларускай тэмай заняўся ён невыпадкова, сабраў шмат матэрыялаў і прывёў нават трапны яе аналіз... Праца ягоная мае аднак выключна публіцыстычны характар. Аўтар, зрэшты, нават не імкнуўся рабіць навуковую апрацоўку.

У гэтай кніжцы спатыкаецца таксама шмат думак і высноваў, якія ўжо дзесьці чуліся — найчасцей у выказваннях Юры Туронка і Алега Латышонка. Праўдападобна, аўтар праводзіў нейкія кансультацыі з нашымі гісторыкамі. Вялікім недахопам кніжкі з'яўляюцца рэдактарскія і карэктарскія пагрэшнасці. Асабліва запіс імёнаў і прозвішчаў у беларускім вымаўленні рэдка дзе выступае без памылак. Такіх недахопаў можна было б знайсці яшчэ некалькі, але яны малаважныя, побач самога факту заіснавання такой кніжкі на польскім рынку. Для большасці палякаў Беларусь — гэта краіна, якая нядаўна аб'явілася і не дзесьці там у Афрыцы, але побач, за „усходняй сцянай”.

Апрача гісторыі, у кніжцы знаходзіцца даволі добры аналіз актуальнай палітычнай сітуацыі ў Беларусі і чатыры раздзелы, прысвечаныя суадносінам паміж рэспублікай і яе суседзямі — Расіяй, Польшчай, Літвой і Украінай.

Шмат увагі прысвяціў аўтар беларускай меншасці ў Польшчы і польскай у Беларусі. Трэба сказаць, што як рэдка каму з палякаў удалося Дарскаму прадставіць нашу тут складаную сітуацыю, пазбягаючы фальклорнага вобразу беларускага грамадства на Беласточчыне.

Кніжку гэту варта мець у сваёй бібліятэчцы, нягледзячы на вышэйзгаданыя недахопы. Была яна ў продажы ў Беластоку ў канцы кастрычніка. Месяц пасля, калі пішу гэтую рэцэнзію, я не бачыў яе ў ніводнай кнігарні ў нашым горадзе.

**Я. МІРАНОВІЧ**

---

*Józef Darski, Białoruś. Historia, współczesność, konflikty narodowościowe, Warszawa 1993, wyd. Instytut Polityczny.*

# У НАСТАЎНІКАЎ -ЛІТАРАТАРАЎ

Ужо шмат гадоў актыўна працуе Настаўніцкі літаратурны клуб пры Акруговай радзе Саюза польскіх настаўнікаў у Беластоку. З 1988 года выдае ён літаратурны часопіс „Najprościej”. Яго рэдагуюць Казімір Сламінскі і Яўген Шульборскі. Кожны год клуб праводзіць агульнапольскі паэтычны конкурс „За залатую, сярэбраную і бронзавую булаву”, конкурс імя Веслава Казанэцкага, літаратурныя семінары. Арганізуе таксама мерапрыемствы супольна з літаратурным клубам Саюза польскіх пісьменнікаў. Хаця сёлета было іх няшмат.

Настаўніцкі літаратурны клуб выдаў зборнікі вершаў Анны Рамановіч, Мечыслава Чайкоўскага, Юзэфы Драздоўскай і Яўгена Шульборскага, зборнік эпіграмаў Славаміра Высоцкага, а таксама зборнікі прозы Анатоля Батуры, Збігнева Навіцкага і іншых літаратараў.

У квартальніку „Najprościej” друкаваліся творы членаў Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа”. На працягу трох гадоў у квартальніку сістэматычна змяшчаецца лірычная проза Янкі Целушэцкага.

Нядаўна ад функцыі старшыні Настаўніцкага літаратурнага клуба адмовілася Анна Рамановіч, якая намерваецца выехаць на пастаяннае жыхарства да сваёй маці ў Швецыю. Зараз клубу старшынствуе Яўген Шульборскі, функцыю намесніка старшыні выконвае Анна Ульман-Марчак, а сакратара — Юзэф Касёр.

**ЯНКА ЛЯЎКОЎСКІ**

# ЗА ГЭТА ПЛАЦЯЦЬ ГРОШЫ

*Працяг са стар. 1*

*мове?*

— Тут нельга вініць ні дырэктара школы, ні інспектара. Не. Гэта віна асветных законаў. Настаўніка нельга звольніць. Такія законы. З другога боку, трэба быць чалавекам, і настаўніку, які працаваў 27 год, трэба памагчы датрываць да пенсіі.

*— Выпадковыя людзі не вучаць польскай ці нямецкай моў?*

— Вы маладая асоба, трэба зважаць таксама на жыццёвыя справы.

*— А беспрацоўныя беларусісты?*

— Дзе ж гэтыя беспрацоўныя беларусісты? Тыя, што шукалі працы ў Кураторыі, атрымалі яе. Калі нехта вельмі хацеў працаваць, заўсёды знаходзіў працу.

*— Калі была апінія спадара Баршчэўскага.*

— Ёсць кантакты з Баршчэўскім. Таксама важна ведаць, ці кандыдат — гэта адказны чалавек, ці не.

*— А тыя, што шукаюць самі па школах?*

— І яны ніколі не знойдуць. Бо цэлага штату ў вясковых школах няма. Класы вельмі часта спалучаюць, колькасць вучняў невялікая. Але бывае і так, што патрэбны настаўнік, і не ведаю, дзе яго шукаць. Тады і навучае беларускай мовы пяць чалавек. Я з гэтым не згаджаюся.

*— Ці спецыялісты развязалі б так складаную сітуацыю беларускай асветы?*

— Не надта многа беларусістаў хоча вучыць беларускай мове. У гэтай школе (*Гайнаўка, школа н-р 2 — Г. К.*) ёсць тры выпускнікі беларускай філалогіі (перакваліфікаваныя на паланістаў). Калі мне прыйшлося дзяліць гэты прадмет і калі я гаварыла з імі, то яны адбіваліся рукамі і нагамі ад гэтай мовы. Такіх настаўнікаў беларускай мовы, якія даюць з сябе ўсё, каб палегчыць сітуацыю роднай мовы, можна палічыць на пальцах адной рукі. Рэдка сустракаецца настаўнік, які ўмее прывіць пашану і любоў да гэтай мовы. І гэта страшна. Нядаўна быў пленум, на якім прапанавалася арганізаваць прадметны конкурс беларускай мовы. Нашыя настаўнікі сказалі, што і так ніводзін прадмет не мае столькі конкурсаў, як беларуская мова. Мастацкія ёсць (конкурсы беларускай песні, сцэнічнага слова, дэкламатарскі), а прадметнага — няма. Бо такі конкурс трэба ўключыць у план Кураторыі, і справа аформіцца. Патрэбныя добраахвотнікі да ўдзелу. Падумайце, толькі двое настаўнікаў выказаліся, што такі конкурс патрэбны. І калі мы падрыхтуем гэты конкурс, і прыме ў ім удзел толькі двое настаўнікаў, для нас будзе гэта кампраметацыя. А ёсць трыццаць настаўнікаў, якія закончылі беларускую філалогію. Большасць вучыць, абы вучыць, бо за гэта плацяць грошы.

*— Можа зрабіць конкурс для кандыдатаў на настаўнікаў у школы, дзе выступаюць цяжкасці з укамплектаваннем адпаведнай колькасці вучняў, у ліцэі.*

— Не ведаю. Не. Не трэба перабольшваць ролі аднаго прадмета над іншымі. Сенсацыі нам не патрэбны.

*— А гэта была б сенсацыя?*

— Была б.

*— Якая матэрыяльная база?*

— Заўсёды былі і ёсць клопаты з падручнікамі. Выдавецкі цыкл падручніка працягваецца пяць гадоў. Ёсць клопаты з аўтарамі. Найчасцей выходзіць так, што пішуць іх навукоўцы. І гэтыя падручнікі ў вялікай ступені непрыдатныя. Найлепш, каб падручнікі пісалі самі настаўнікі-практыкі. На жаль, няма ахвотных.

*— Ці ёсць надзея на паляпшэнне гэтай нецікавай рэчаіснасці?*

— Раблю што магу. Заклікаю настаўнікаў, каб больш ангажаваліся, каб карысталіся ўсімі даступнымі формамі працы. Думаю, што з часам дойдзем да больш надзейнай сітуацыі. Але трэба многа стараннай працы з боку ўсіх свядомых беларусаў.

*— Дзякую за размову.*




**Шаноўная рэдакцыя!**

Прачытала я ў 44 нумары „Ніві” артыкул Ганны Кандрацюк „Нашая родная мова” і вельмі ўсхвалявалася. А гэта таму, што я — настаўніца.

Не магу згадзіцца з тым, што асвета марнуе дзяржаўныя грошы тады, калі ў бюджэце такі дэфіцыт. Трэба аддаць пад суд дырэктараў такой і падобных школ. Яны ж вядуць кадравыя справы і ад іх залежыць, ці ў школе будуць адпаведныя спецыялісты! Як можна плаціць людзям грошы за тое, што марнуюць дзяцей, а не вучаць!

Філалогія ў Варшаве працуе і выпускае магістрантаў, але дырэктары школ іх не прымаюць на працу. Лепш трымацца са сваёй кадрай і мучыць дзетак. Сітуацыю гэту ведаюць асветныя ўлады ў раёне Бельска-Падляшскага і Тамара Русачык — візітатар па беларускай мове. Няхай дапамагаюць яны маладым, няхай звяртаюцца да куратара, а ён будзе ведаць, як дапамагчы маладым спецыялістам. У апісанай школе бракуе настаўнікам гадзін да поўнага штату. Няхай дырэктар дбае пра годнасць прадмета і прымае спецыялістаў на гадзіны ці на 3/4 і 1/2 стаўкі.

Бывае так і на Гайнаўшчыне. Напрыклад, дырэктар звальняе магістра беларускай філалогіі, а прымае настаўніцу пасля ліцэя, якая перарвала навуку ў ВНУ і не мае спецыялізацыі, а ўрокі беларускай мовы дзеліць паміж настаўнікаў, якія ў ліцэях вучыліся 20—30 гадоў таму і нічога супольнага не мелі з беларускай мовай, а цяпер навучаюць. Маюць па тры гадзіны звыш стаўкі. Школа вялікая (у 8 аддзелах навучаецца беларуская мова). Тут патрэбны сапраўдны спецыяліст, а не настаўнік, які гаворыць на польскай мове, беларуска-рускай трасянцы або на дыялекце.

Настаўнікі апісаныя ў артыкуле калечаць дзяцей і не саромяцца браць за гэта грошы, а дырэктар школы мае адвагу гаварыць, што *не ўсе дзеці хочуць вучыцца беларускай мове*. І правільна робяць! Што тады дырэктар гэтай школы зрабіў, каб паставіць прадмет на роўні з іншымі? Настаўнікі гэтыя няхай вучаць замежныя мовы. Патрапілі б таксама!

У апісанай школе гэта настаўнікі не рэалізуюць праграмы беларускай мовы, чакаюць на падручнікі з Беларусі. Падручнікі выдаюцца і ў нас. Напэўна яны не дапасаваныя да сённяшняй рэчаіснасці, але на тое ён настаўнік, каб патрапіў скласці план работы ў паасобных класах, дабраць адпаведныя тэксты, патрэбныя песні. Адным словам — рэалізаваць праграму, весці ўрокі цікава і займальна, развучаць п'есы на школьную сцэну, браць удзел у конкурсах. Толькі спецыяліст можа гэта зрабіць. Ён ведае літаратуру.

Настаўнік-філолаг павінен:

— навучыць дзяцей валодаць літаратурнай мовай,

— узбагачаць іх слоўнікавы састаў,

— навучаць выказвання думкі на пісьме (7 гадоў навукі ў пачатковай школе!).

Аб сітуацыі беларускіх філолагаў ведае Тамара Русачык, яна ж працуе ў асветных уладах і многае можа зрабіць. Трэба ў школы такія ёй умяшацца! Няхай візітатар наведвае ўрокі такіх „спецыялістаў”, тады можа не захочуць больш брацца яны за тое, чаго не ўмеюць. Трымайце спецыялістаў, бо беларускую мову са школ выведуць у поле!.

Рэдакцыя „Ніві” і БГКТ!!! Дапамажыце і ратуйце дзетак ад такіх настаўнікаў, якіх апісала Ганна Кандрацюк.

*(імя і прозвішча да ведама рэдакцыі)*

# УЛАДЗІМІР ВАЛАДАРАВІЧ МЕНСКІ — REX WOLDEMAR

Самай яскравай асобай ранняга сярэдневякоўя ў гісторыі Беларусі з'яўляецца князь Усяслаў Брачыславіч. Легенды пра яго паўтараліся яшчэ некалькі соцень гадоў пасля яго смерці. Нездарма назвалі яго Чарадзеем. Усё-такі знайшліся ў яго нашчадкі, якія прабавалі „адняць славу” свайго продка, значыцца, перавысіць яго сваімі пачынамі.

Адным з іх быў Уладзімір Валадаравіч. Усе ягоныя продкі, уключна з Усяславам Чарадзеем, былі князямі крывіцкімі, г. зн. уладарылі толькі Полацкай зямлёю — паўночнай Беларуссю. Поўдзень Беларусі займала Тураўскае княства, створанае племем драгавічоў. У яго склад уваходзіла Падляшша з Берасцем і Драгічынам (яго назвалі драгавічы ад свайго імя, як самы заходні пункт сваёй дзяржавы).

Полацкае і Тураўскае княствы жылі асобным жыццём, пакуль з Полацкай зямлі не выдзялілася Менскае княства. Менск узнік на тэрыторыі, якую засялялі драгавічы. Таму менскі князь Глеб, хаця быў крывіцкага паходжання, палічыў, што ўсе драгавіцкія землі павінны быць падначалены Менску. Страшэнная вайна з кіеўскім князем Уладзімірам Манамахам за драгавіцкія землі скончылася паражэннем Глеба.

Менскія князі не здаваліся. Унук Глеба, сын Валадара — Уладзімір — здолеў далучыць да Менскага княства Берасцейскую зямлю. Гэта не спадабалася драгічынскаму князю Васільку Яраполкавічу. Василько ўзяў сабе за саюзніка мазавецкага князя Лешка, які меў атрымаць Падляшша ў спадчыну пасля смерці Васілька.

У 1182 г. Василько з дапамогай палякаў пайшоў на Берасце. Уладзімір сустрэў яго над Бугам. Адбылася жорсткая бітва. Уладзімір, страціўшы многа людзей, адышоў да Менска і Берасце занялі палякі. Тым часам Уладзімір сабраў войска, узяў дапамогу ад палачанаў і вярнуўся пад Берасце. Праз дзевяць дзён узяў ён горад і, перабіўшы польскіх абаронцаў, пайшоў на сустрач Васільку.

Василько чакаў яго з немалым войскам, сабраным з палякаў, на Нурцы, на мяжы з Мазоўшам. Пасля жорсткага бою, які доўжыўся ад раніцы да вечара, палякі пачалі адступаць у лес, але Уладзімір перабіў іх амаль да апошняга. Василько ўцёк з недасекамі да свайго швагра Лешка. Той, сабраўшы войска, прымусіў Уладзіміра вярнуць Драгічын Васільку.

У вайну ўмяшаліся кракаўскі князь Казімір Справядлівы і валынскія князі. Берасце пачало пераходзіць з рук у рукі. Гісторыкі па сённяшні дзень не могуць разабрацца, хто ў рэшце рэшт выйграў вайну.

Усё-такі Уладзімір Валадаравіч надалей пашыраў сваё княства. У 1186 г. пераняў уладу ў самым вялікім горадзе тагачаснай Беларусі — у Полацку. Дзякуючы гэтаму стаў ён суверэнам вялікай дзяржавы, якой падначыняліся тады латышскія і літоўскія плямёны. Галоўнымі апорнымі пунктамі полацкай дзяржавы ў Латвіі былі гарады Герцыке і Кукенойс, у Літве — Крывагорад (цяперашняя Вільня).

І тут Уладзімір зрабіў жыццёвую памылку, за якую прыйшлося расплаціцца і яму, і цэлым пакаленням беларусаў. Дазволіў ён каталіцкаму місіянеру Мейнарду прапаведаваць хрысціянства сярод язычнікаў — ліваў, якія жылі на ўзбярэжжы Балтыйскага мора. Пачалося з Божай справы, скончылася шматвяковым кровапраліццем. У след за Мейнардам з'явіліся крыжаносцы.

У 1202 г. місіянеры арганізавалі крыжацкі ордэн мечаносцаў. Уладзімір, якога лацінніki называлі „rex Woldemar” (кароль Вальдэмар), сцяміў хутка, чым гэта пагражае. У 1203 г. атакаваў крыжаносцаў, але аказалася, што крыжакі перавышаюць беларусаў арганізацыяй і дасканалай зброяй. Палачане ўсё-такі не здаваліся. Разгарэлася жорсткая вайна. У 1209 годзе крыжакі занялі Кукенойс і спалілі Герцыке, багаты горад, у якім было некалькі праваслаўных цэркваў. Крыжакі цкавалі адно племя на другое і пасоўваліся ўверх Дзвіны.

Нарэшце эсты папрасілі ў 1216 г., каб Уладзімір прыйшоў аблажыць Рыгу, абяцаючы дапамогу. Уладзімір сабраў аграмаднае войска з русаў і літоўцаў. Войска стаяла ўжо ў поўнай гатоўнасці. Князь меў узысці на карабель, каб ехаць уніз па Дзвіне з флотам. І тут Уладзімір на вачах войска паваліўся непрытомны і адразу сканаў. З усяго відаць, што князь быў атручаны крыжакамі.

Уладзімір Валадаравіч, князь менскі, берасцейскі і полацкі, быў у гісторыі Беларусі адной з самых трагічных асоб. Лёгка цяпер асуджаць яго за дазвол Мейнарду весці місію. Уладзімір быў глыбока веруючым хрысціянінам і не спадзяваўся вераломства з боку „святых айцоў”. Прасіў іх, каб не навярочвалі язычнікаў сілай, пагражаў, але спачатку не смеў падняць меч на святара. Проста, яму першаму прыйшло сустрэцца з прадстаўнікамі іншай цывілізацыі. Адзначым, што таксама пусціў у Польшчу крыжакоў Кандрат Мазавецкі, хаця існаваў ужо вопыт з іхнімі паводзінамі ў сярэдняўсходняй Еўропе.

Нягледзячы на памылкі, у дадзенай сітуацыі непазбежныя, Уладзімір быў вялікім уладаром. Ён першы аб'ядаў землі між Бугам і Дзвіною, ствараючы агульнабеларускую дзяржаву. Магчыма, гэта ён назваў нашу краіну Белай Руссю, каб падкрэсліць магутнасць і самастойнасць сваёй дзяржавы.

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

Зорка
старонка для дзяцей



*Зімовая графіка.* **Фота У. Завадскага**

Паглыбляй свае веды

# ПАД ПОКРЫВАМ ЛЕДЗЯНОГА ПАНЦЫРА

Як зімуюць наземныя расліны, мы ведаем: дрэвы і кусты скідваюць да зімы лісце, надземная частка шматгадовых травяністых раслін адмірае цалкам; у аднолетнікаў адмірае ўся расліна разам з каранёвай сістэмай. Шматгадовыя празімоўваюць у выглядзе карэнішч, цыбулін, на якіх у канцы лета фарміруюцца пупышкі. Аднагадовыя зімуюць у асноўным у выглядзе насення. Водныя расліны ў адносінах перазімоўкі, здавалася б, маюць шэраг пераваг у параўнанні з сухапутнымі раслінамі. Іх зімуючыя часткі -- карані і карэнішчы -- размяшчаюцца на дне вадаёма і ахаваны ад неспрыяльных умоў слоем лёду і вады, якая на працягу ўсёй зімы захоўвае пастаянную тэмпературу -- каля плюс чатырох градусаў. Воднае асяроддзе ў значнай ступені нівеліруе неспрыяльныя ўмовы існавання раслін. Разам з тым, водныя расліны старанна рыхтуюцца да зімы, утвараюць цэлы рад спецыяльных органаў. Гэта асабліва прыкметна ў раслін, якія плаваюць на паверхні вады і пазбаўлены каранёў. З замярзаннем вадаёма гэтыя расліны немінуча павінны былі б загінуць, калі б не апускаліся ў больш глыбокія слаі вадаёма. Здавалася б, што сярод гэтых раслін павінна было б быць больш аднагадовых, якія добра пераносяць неспрыяльныя ўмовы існавання. Аднак у сваёй большасці яны з'яўляюцца шматгадовымі раслінамі. Да іх ліку адносяцца віды, якія растуць па берагах вадаёмаў і нярэдка заходзяць на значную глыбіню: плюшчаі, стрэлкаліст, а таксама раскі, многакарэннік, жабнік і іншыя. З наступленнем халадоў раскі апускаюцца на дно вадаёма. Частка з іх гіне, іншыя ў зялёным стане перазімоўваюць. Вясной раскі пачынаюць хутка размнажацца, і да сярэдзіны чэрвеня вадаём пакрываецца зялёным дыванам. Зусім інакш зімуе многакарэннік, які падобны да расак. Да наступлення халадоў у яо ўтвараецца сцябло пупышкападобнай формы, якое не мае паветраносных поласцей, а поўнасцю запоўнена пажыўнымі рэчывамі -- крухмалам. Расліна апускаецца на дно вадаёма і там зімуе. На працягу зімы крухмал расходуецца, і да вясны сцяблінь робяцца лёгкімі і ўсплываюць на паверхню вады, дзе пачынаюць ўзмоцнена размнажацца. Даволі цікава да зімы рыхтуецца жабнік. У другой палове лета з ніжняй часткі пакарочанага сцябла адрастаюць асаблівыя парасткі, якія спачатку растуць уніз, гэта значыць, у глыбіню вадаёма, а потым загінаюцца ўверх -- да паверхні вады. На канцах у кожнага з парасткаў утвараецца пупышка. Такіх парасткаў у адной расліны бывае тры-чатыры. Узімку пупышкі на кожным парастку ўхутаны лускападобнымі лісткамі. У іх адкладваюцца пажыўныя рэчывы. Таму пупышкі цяжкія і лёгка адрываюцца ад мяцярынскай расліны і апускаюцца на дно вадаёма, дзе і перазімоўваюць. Вясной пупышкі ўсплываюць на паверхню вады. Белы гарлачык і жоўты гарлачык маюць магутныя карэнішчы. У жоўтага гарлачыка яно гарызантальна размешчана ў грунце і мае некалькі адгалінаванняў, кожнае з якіх канчаецца пупышкай узнаўлення. У белага гарлачыка карэнішча конусападобнае. Пупышка ўзнаўлення адна, размешчана на верхавіне карэнішча. Пад лёд абедзве расліны ідуць з маладым неразвітым лісцем і зачаткамі бутонаў. Урэчнікі, шышняк, рагалісонікі, элад'эя зімуюць інакш. Урэчнікі, напрыклад, перазімоўваюць не толькі з дапамогай пупышак узнаўлення, але і маладымі парасткамі, у якіх лісце цесна згрупавана на верхавіне сцябла. Некаторыя ўрэчнікі зімуюць у выглядзе маладых асенніх парасткаў. Прычым лісце ў іх да зімы ападае, захоўваюцца толькі чаранкі, якія на працягу зімы не трацяць зялёнай афарбоўкі. Эладэя і рагалісонік да зімы ўтвараюць пупышкі на старых сцёблах. Апошнія з надыходам халадоў апускаюцца на дно вадаёма. Старыя сцёблы і маладыя парасткі на працягу зімы не трацяць зялёнай афарбоўкі. Вясной пупышкі пачынаюць развівацца і ўсплываюць на паверхню вады разам са старымі сцёбламі, якія за зіму губляюць частку лісця. Так зімуюць водныя расліны. Многія з іх на дно вадаёма апускаюцца зялёнымі, таму нават зімой на дне захоўваюцца зялёныя астраўкі водных раслін.

**ВАЛЯНЦІНА ІГНАЦЕНКА**
*("Родная прырода" н-р 6/89)*

## Вершы Віктара Шведа

**БАБА-ЯГА**

Па вуліцы гарадской
Вандруе з матуляй Тамара.
Вялізарнай надта мятлой
Бабулька мяце тратуары.

Дзе толькі ступае нага,
Аглянуць усё тут хацела б.
— Глянь, мама, вось Баба-Яга
Сюды на мятле прыляцела!

**НЕ МЕЎ ВЫХАДУ**

Тата адлупцаваў Івана,
Які быў надта неслухмяны.
З плачам да бацькі сын звярнуўся:
— Ці пакараць мяне ты мусіў?

Калі ўжо сын пахліпваў ціха,
Тата спытаў: — Які ж меў выхад?
— Выхад напэўна быў магчымы:
Дзвярыма.

**ПАКАЖЫ ЯЗЫК**

— Пакажы язык, каханы, —
Просіць лекар.
— Я баюся, нечакана
Будуць здзекі?!

Паказаць язык у хаце
Паспрабую,
Дык мяне заўсёды маці
Адлупцуе!

**БУДЗЕШ ТАДЫ... ЖАНАТЫМ**

З іскрынкай радасці ўваччу
Спытаў татульку Косця:
— Буду рабіць, што захачу,
У тваім, тата, узросце?

— Як будзеш мець мае гады, —
Сказаў на гэта тата, —
Дык, дарагі сынок, тады
Станешся ўжо жанатым...

**ДАЎ СЛОВА ГОНАРУ**

Татулька ў хаце свайго сына
Увечары пытае:
— Як жа было на імянінах
У сябра Мікалая?

— Не гэтае было ў праграме,
Што мной запланавана.
Даў слова гонару я маме,
Што буду паслухмяны.

**МУЖЧЫНАМ ТРЭБА МЫЦЦА**

У ваннай Лявон
Знайшоў адэкалон.
Забрала сястра Лёні
З духмянасцю флаконік.

— Яго ўжываць павінны
Адны толькі жанчыны.
— Хацеў я асвяжыцца.
— Мужчынам трэба... мыцца!

## ПАЗЯХАЙЦЕ... НА ЗДАРОЎЕ!

Упершыню гэта адбылося выпадкова: адна з нью-йоркскіх тэлестудый завяршыла сваю праграму тым, што дыктар на экране неспадзявана... пазяхнуў.

Трэба было прасіць прабачэння ў тэлегледачоў, але яны раптам завалілі студыю ўдзячнымі пісьмамі — галоўным чынам людзі, якія пакутуюць на бяссонніцу. Высветлілася, што тэлепазяханне дапамагло ім у гэты вечар заснуць!

Цяпер тэлекампанія прапануе гледачам салодкія тэлепазяханні штовечар на працягу пяці мінут.

 

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ

## 5

*(Працяг з папярэдняга нумара)*

Удзельнікі гульні ўтвараюць кола. Адзін з іх называе літару і кідае мяч другому, той павінен імгненна назваць наступную ў алфавіце. Калі ён не памыліўся (за гэтым сочаць усе), то мае права назваць любую літару і кінуць мяч наступнаму. Той, хто памыліўся або затрымаў мяч, успамінаючы патрэбную літару, выбывае ў лік балельшчыкаў. Чым вузейшым робіцца кола, тым больш напружана чакаюць: вось засталося трое, двое — хто з іх будзе пераможцам? А можа, абодва, і будзе нічыя? Гэта вырашаюць балельшчыкі, спыніўшы паядынак і прызнаўшы такім чынам роўнасць абодвух.

Памылкай лічыцца не толькі парушэнне алфавітнага парадку, але і няправільная назва літары, напрыклад мэ замест эм. А што рабіць, калі мяч упаў? Вінаваты ў гэтым выбывае — ім можа быць і той, хто не здолеў злавіць, і той, хто нялоўка кінуў.

Калі ахвотнікаў гуляць больш за дзесяць — усё падвойваецца: два колы, два мячыкі. Выбыўшыя з абодвух колаў могуць утварыць сваё, трэцяе, у якім збяруцца роўныя па сілах.

Варыянт: У цэнтры кола — вядучы, ён пасылае ўдзельнікам мяч разам з літарай, да яго ж з адказам мяч вяртаецца. Калі мяч упаў па віне вядучага, яму налічваецца штрафнае ачко. У гэтым варыянце можна наладзіць спаборніцтва вядучых: хто хутчэй „выб'е" з кола ўдзельнікаў (да нуля ці да двух, трох — па дамоўленасці) і ўхіліцца ад штрафных ачкоў. Такое кола павінна быць невялікім, і кожны робіцца вядучым па чарзе.

### Канструяванне слоў

Удзельнікам раздаюцца скрыначкі з літарамі, у кожнай аднолькавая колькасць — напрыклад, восем літар а, пяць м, дзве к, дзве у, адна с, адна х і адна ш. З літар трэба скласці словы, каб ніводнай не засталося, напрыклад: мама, Маша, каса, мука, муха. І тады ў пераможцы будзе дваццаць ачкоў з дваццаці магчымых. Засталіся „беспрацоўныя" літары — адпаведна змяншаецца і колькасць ачкоў.

### Варыянты:

1. Даецца слова, напрыклад машына, трэба скласці з літар гэтага слова іншыя словы: Маша, шына, мана, мыш, шаман, нам, наша, нашы. У кожным слове кожная літара можа быць стольві ж разоў, колькі і ў дадзеным слове. Праверка: высвятляецца, у каго запісана найбольшая колькасць слоў — гэта пераможца па колькасці. Ён чытае свае словы, а астатнія іх выкрэсліваюць у сваіх спісах. Кожнае слова — ачко. Затым чытаюцца словы, якія не сустракаліся, — за кожнае па два ачкі. Вызначаецца пераможца па якасці, той, у каго запісана апошняе, нікім не знойдзенае слова, за гэта тры ачкі (або пяць). Пасля робіцца канчатковы падлік ачкоў.

2. Дадзенае слова і ўтвораныя пішуцца на лістку ў слупок. Пры здачы лісткоў журы іх нумаруе: пры ацэнцы ўлічваецца хуткасць выканання. Праверка: няправільныя варыянты выкрэсліваюцца, памылкі падкрэсліваюцца (іх выпраўляе сам „аўтар") — за гэта здымаецца па ачку. Выстаўляецца колькасць ачкоў. Калі ў першых здадзеных работах няма памылак — дадаецца тры ачкі пры ўмове разыходжання колькасці запісаных слоў з максімальнай колькасцю не больш за тры.

3. Запісваецца слова на дошцы і над кожнай літарай — нумары па парадку, а пад словам загадзя пішуцца лічбы, адпаведныя літарам. Дзеці павінны за абмежаваны час па схеме ўзнавіць словы. Пры падвядзенні вынікаў улічваецца і колькасць слоў, і якасць запісу (каліграфія, арфаграфія). Яшчэ лепш замест запісу на дошцы падрыхтаваць табліцу:

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| Ж | У | Р | А | В | І | Н | А |
| | | 1 | 2 | 3 | | | |
| | | 7 | 6 | 5 | 8 | | |
| | | 2 | 3 | 4 | | | |
| | | 7 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| | | 3 | 4 | 7 | 4 | | |
| | | 5 | 6 | 3 | | | |
| | | 5 | 8 | 3 | | | |

Такія схемы-мадэлі можна нарыхтаваць у выглядзе картак, якія раздаюцца кожнаму ўдзельніку. Пасля заканчэння часу карткі здаюцца для праверкі і падліку ачкоў.

*(Працяг у наступным нумары)*

# НОВЫЯ ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

## ВЕРАНІЧКА ІДЗЕ НА ВАЙНУ

Аднойчы ў госці да Вераніччынай мамы прыйшла цётка Надзея са сваім сыночкам Іллюком. Іллюк быў хлапец вельмі сур'ёзны і на два гады старэйшы за Вераніку. Мама з цёткай селі піць каву, а Іллюк з Веранічкай пайшлі ў дзіцячы пакой.

— Будзеш гуляць у вайнушку? — строга спытаў Іллюк у Веранічкі.

— А як гэта?

— Я буду генералам войска марсіян, а ты — войска зямлян. Мы захопім вашу планету, і ўсе жыхары Зямлі будуць нашымі рабамі. Зразумела?

— Ну, добра, — згадзілася Веранічка, і Іллюк пачаў даставаць са сваіх адцягнутых кішэняў маленькія танкі, гарматкі, пластмасавых салдацікаў і падзяліў іх на два войскі. Мышка Пік-Пік, канечне, не магла ўсядзець у норцы. Яна вылезла з-пад шафы і звярнулася да „генералаў":

— Я таксама хачу гуляць!

— А ў чым войску ты будзеш? — запытаўся Іллюк, які ўжо сустракаўся з Пік-Пік у ранейшых гасцяваннях.

— Я з Веранічкай, — адказала мышка.

— Добра, але ж тады ў мяне будзе войска ўдвая меншае! Гэта несправядліва! — зазначыў Іллюк. — Мне патрэбны таксама салдат!

— А ты вазьмі Максімку! — прапанавала Веранічка. — Больш усё роўна нікога няма — Пепіта гуляе на двары.

— Дык Максім жа яшчэ хадзіць не ўмее! — засумняваўся Іллюк.

— Затое як ён поўзае! — сказала Веранічка, і армія марсіян папоўнілася радавым Максімам.

— Ён будзе маім разведчыкам! — сказаў Іллюк, і Веранічка прызначыла мышцы Пік-Пік гэткую ж ролю.

Войскі разышліся: Іллюк і Максімка засталіся ў дзіцячым пакойчыку, а Веранічка з мышкай пайшлі ў пакой насупраць.

— Ну што, Пік-Пік, — сказала Веранічка, — пара табе ісці ў разведку. Паўзі ў пакой, паглядзі, што робяць Іллюк і Максік, пасля вяртайся і раскажы пра гэта мне. Галоўнае — каб ніхто цябе не заўважыў!

Пік-Пік уздыхнула і выпаўзла ў калідорчык, што аддзяляў пакоі. Між тым Іллюк гаварыў радавому Максіму, важна размахваючы пластмасавым пісталетам:

— Мы іх у адзін момант заваюем! Адна атака — і ўсё! Галоўнае, выбраць для гэтага падыходзячы момант. Таму ідзі, радавы Максім, у разведку... Дакладней, паўзі.

Даўшы яшчэ некалькі каштоўных парад, Іллюк паракуліў манеж, у якім сядзеў разведчык, і дапамог яму выбрацца на падлогу. Максім вельмі ўзрадаваўся і папоўз, толькі не ў бок дзвярэй, а да канапы, дзе валяліся яркія цацкі.

— Стой! Ты куды! — генералу давялося нямала папрацаваць, каб надаць разведчыку правільны накірунак руху. Нарэшце, Максім выпаў за дзверы і тут у калідорчыку сустрэўся з мышкай Пік-Пік.

— На разведку паўзеш? — шэптам пацікавілася мышка.

— Ага! Ага! — радасна адказаў Максім.

— І я ў разведку... Ды нешта нецікавая гэта гульня.

— Ага! Ага! — пагадзіўся Максік.

— А можа, пайшлі да мамы? Там торцікам пахне!

— Мама! Мам-ма! — закрычаў Максім і папоўз на яе голас. Мама ўбачыла сыночка, вельмі здзівілася, што ён выбраўся з манежа, але, упэўніўшыся, што малеча не пабіўся і знаходзіцца ў добрым настроі, узяла яго на рукі і дала пасмактаць смачнае пячэньніца. Пік-Пік таксама перапаў кавалачак, і не адзін. А два генералы сядзелі ў сваіх штаб-кватэрах і чакалі разведчыкаў з даясненнем. Разведчыкі не вярталіся, вайна не магла пачацца, рабілася сумна...

— Я так не гуляю! — пакрыўдзіўся Іллюк, выйшаў з пакоя і ўбачыў Максімку на руках у мамы.

— У, дэзерцір! — прабурчэў Іллюк, але высвятляць адносіны не было калі: цётка Надзя ўжо збіралася дадому. Хутка яны з Іллюком пайшлі. Пік-Пік пабегла да Веранічкі, якая за гэты час паспела задрамаць:

— Прачынайся, генерал! Мы перамаглі!

**ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ**

# АДГАДАНКА

На малюнку бачым пяць квадратаў, складзеных з палачак. У кожным квадраце — цукеркі. Адымі тры палачкі так, каб з пяці квадратаў стала тры, а цукеркі з былых квадратаў пераклaдзі да трох апошніх так, каб у кожным квадраце была аднолькавая іх колькасць.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

# СНЕЖАНЬ

Надышла сцюдзёная пара. Суровы снежань-зімнік намёў у лесе вялізныя гурбы, надзеў на дрэвы і хмызнякі снегавыя шапкі, пухкім белым дыванам заслаў лясныя паляны, лугі і палі. З вечара прыціснуў мароз, ды такі, што ўсю ноч у лесе стаяў трэск.

Сонца ледзь узнялося над гарызонтам, спынілася і, здаецца, застыла. Падзьмуў снежань свежымі марознымі вятрамі. Схаваў хуткія рэкі пад тоўсты блакітны лёд. Стынуць, зацягваюцца лёдам нават лясныя крыніцы, якія звычайна не замярзаюць.

Дні робяцца ўсё карацейшымі, пакуль не надыдзе 21 снежня — дзень зімовага сонцастаяння з самай доўгай ноччу і самым кароткім днём. Снежань не толькі каляндарны пачатак зімы: у гэтым месяцы амаль паўсюдна ўтвараецца ўстойлівае снегавое покрыва.

Здаецца, што жыццё ў лесе спынілася да будучай вясны. Цяжкая пара надышла для жыхароў лесу. У прыродзе кожны жывы арганізм па-свойму прыстасоўваецца да зімовых халадоў. Трытоны зімуюць, закапаўшыся ў мяккі лясны подсціл. У пустотах пад старымі, спарахнелымі пнямі схаваліся ад холадоў вужы і змеі. На дне вадаёмаў чакаюць вясны здранцвелыя жабы. У халодны ветраны дзень птушкі сядзяць нерухома, падобныя на пухкія шарыкі. Асабліваe выпрабаванне для іх — марозная ноч. Яны хаваюцца ў дуплы, шчыліны і нішы дрэў, нават пад карані. А там часта трапляюць у зубы ласкі ці гарнастая.

Надыходзіць халодная пара і для дзікіх капытных жывёл. Уважліва прыслухоўваючыся да кожнага шораху, ходзяць табункі аленяў, ласёў і сарнаў. Калі ўлетку самкі і самцы трымаюцца паасобку, то зімою яны збіраюцца разам. Цяпер можна напаткаць статкі аленяў з 10 і больш асобін рознага полу і ўзросту. Так ім лягчэй заўважыць набліжэнне ворага.

Яліны апрануліся ў пушыстыя снегавыя шапкі. Паветра марознае, свежае. Ад дрэў, асветленых халоднымі прамянямі скупога зімовага сонца, кладуцца доўгія шэрыя цені.

**А. КУРСКОЎ**

# ЛАГАГРЫФ

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | | |
| 2 | | | | | | |
| 3 | | | | | | |
| 4 | | | | | | |
| 5 | | | | | | |
| 6 | | | | | | |
| 7 | | | | | | |
| 8 | | | | | | |

1. „этаж" у шафе, 2. не столь і не падлога, 3. узорны выраб, які кладуць на падлогу, 4. паляць іх у печы, 5. прыбудова да галоўнага ўвахода ў дом, часта з лаўкамі і прашклёнымі сценкамі, 6. парода, з якой вырабляюць цэглу, 7. памяшчэнне, у якім гатовяць яду, 8. мастацкі твор, прызначаны для пастаноўкі ў тэатры.

Вылучаныя літары складуць назву беларускага народнага танца, або эстраднага беларускага калектыва, які існаваў у 60-х гадах у Беластоку.

Адказаў чакаем два тыдні.



 

Новыя вершы

*БАРЫС РУСКО*

**НАЗІРАННЕ**

На жывой вуліцы жабрую позірк
у разявакаў,
скараходаў,
кульгавых,
мажных,
згорбленых
старых,
маладых.
Пытаю ўсіх і сябе:
— Прыкмецілі мяне?
— Астаўся след мой у вашай памяці?
Толькі след.
— Ці ўзновіце мяне? Хоць бы ў снах —
разяваку,
скарахода,
кульгавага,
мажнага,
згорбленага,
старога,
маладога.
Ці ўзновіце?

**ЗІМА**

Спадаюць з сонца слёзы блакіту,
як з абымшэлых стрэх ільдзінкі.
Грачыны крык спатыкаецца на грудах
застылых слоў поля.
Касцістая далонь заціснула струны
дрыготкай натуры.

*УЛАДЗІМІР САЎЧУК*

**БЕЗ СЛОЎ**

Сагнуў спіну над фурай гною
цягнуў як мог гарбатым словам
цяпер прыйшлося мне прызнацца
хто кіраваў маёй душою
Калі прабудзіцца адвага
глянуць у парнік п'янай праўды
усіх пацягне гэта брага
кажу вам гэта я — сапраўды
Міша і Юрка як браты
замочаны штодзень у маслянцы
калі не верыш прыйдзі і ты
дай зарабіць старой Майданцы

*МІХАСЬ АНДРАСЮК*

* * *

Край мой бярэзінай абшыты,
як сукні шлюбныя дзяўчын,
калі вяселле загрыміць
вадой крынічнай.
Дзе б не паехаў, дзе б не быў ты,
з усіх дарог і калян
пакліча.

## УВАГА: „САКРЭТНА ТАЙНАЕ!"

Прывыклі мы да розных таямніцаў. Многія гады адвучвалі нас (яшчэ адвучваюць) быць цікаўнымі. Ужо ў дзяцінстве страшаць: „Будзеш многа ведаць — у пекла трапіш". Акружаюць нас тэмы забароненыя для інфармацыі. Таямніцы ёсць усялякія: дзяржаўныя, службовыя, сяброўскія, асабістыя і г.д. Найчасцей скрываюцца адмоўныя з'явы. Калі нейкая дзяржава ўтойвае вайсковыя справы, дык найхутчэй мае армію, якая яе не абароніць. Вайсковая тайна скрывае яе слабасць. Калі дзяўчына хавае сваю прывабнасць, можна тады спадзявацца, што яе амаль не мае. Хто ж раскрые свае заганы? Вось калі няма чым пахваліцца, тады ёсць „сакрэтна тайнае".

Пэўна чытачы „Нівы" заўважаюць, што ў нашай газеце мала артыкулаў пра культурна-асветную дзейнасць у нашым асяроддзі. Розных беларускіх арганізацыяў ёсць цяпер многа, але інфармацыі пра іх дзейнасць няма. Проста — таямніца! Можна дадумацца, чаму. Раскрываю вось тайну рэдакцыі. Журналісты шукаюць інфармацыяў у „Ніву", карэспандэнты, пэўна, таксама, а вынікі іх намаганняў — мізэрныя — кожны бачыць на старонках тыднёвіка. Найчасцей друкуюцца філасофскія разважанні, погляды, адгалоскі, спрэчкі, жарты. Усе знаюць, што гэтага ў „Ніве" замнога. Дык пра што пісаць? Тое, што ў школе вучацца вучні, або што цяпер беспрацоўе — усе ведаюць. Вакол у беларускім асяроддзі — „Сакрэтна тайнае!.."

**В. ХРЫСЦІНІН**

## „ЛЕПШ ЖАРТАВАЦЬ, ЧЫМ ХВАРЭЦЬ"

На Беласточчыне добра вядомы бард з Гародні Віктар Шалкевіч. Папулярнасць заваяваў ён сваімі песнямі на „Басовішчы". Яго бардаўская творчасць вызначаецца пэўным сарказмам да беларускай рэчаіснасці. Адначасна ён захапляе гумарам ды глыбінёй зместу тэкстаў. Некаторыя Шалкевіча называюць „бардам, які кранае за жывое". Многія любяць слухаць яго песні, але некаторыя абураюцца на празмерную бескампраміснасць выказванняў. Песні Шалкевіча сакавітыя, хоць і бесцырымонныя. А хто ён, аўтар? Перш за ўсё захапляючы чалавек, прафесійны акцёр лялечнага тэатра ў Гародні. Ён артыст вялікага таленту, калі выступае на сцэне, хаця ў прыватных кантактах гэтага можна і не заўважыць. Віктар паводзіць сябе натуральна, без асаблівых манераў эстраднай зоркі. У кампаніі сяброў, сярод сваіх людзей вызначаецца сардэчнасцю ды жартаўлівасцю. Здаецца, ён не мае ніякіх клопатаў ці жыццёвых праблемаў. Сваім гумарам здольны развесяліць найбольш панурага асобеня. Пры бліжэйшым знаёмстве можна пераканацца ў яго багатых ведах у розных галінах.

А якія заганы ў Віктара Шалкевіча? Яны напэўна ёсць, ён жа звычайны чалавек. Вось мне асабіста не падабаецца залішняя хаатычнасць у паводзінах і выказваннях. Занадта катэгарычна адносіцца ён да складаных спраў. Здаецца, што ён шукае спосабы на тое, каб беларусы перасталі плакаць і наракаць на свой цяжкі лёс. Не хоча Шалкевіч быць такім беларусам, як многія. Зрэшты — яго справа!

**В. ХРЫСЦІНІН**

## У БЕЛЬСКУ ЛІЧАЦЬ ПРАВАСЛАЎНЫХ

Хаця паводле беластоцкай прэсы ў Бельскай гарадской радзе быццам „шаблі схаваныя", дык, відаць, не зусім. Інтэрпеляцыю раднага Радкевіча з пытаннем, колькі праваслаўных працуе ў бельскай „тройцы", ніхто нейк „пад сукно" не засунуў. Гарадская ўправа звярнулася да дырэктара школы Васіля Ляшчынскага, каб той высветліў, колькі ў сапраўднасці гэтых праваслаўных працуе ў яго школе.

Паколькі дырэктар В. Ляшчынскі ўпарта сабатуе слушныя дзеянні ўправы, палічыў я сваім грамадскім абавязкам высвеtліць сітуацыю прынамсі ў „Ніве". Можа гэта камусьці спатрэбіцца. Вось вынікі тых даследаванняў, праведзеных з пачуццём адказнасці перад Богам і Айчынай:

— хрышчоных ва ўсходнім абрадзе — 11, у тым ліку „парашутыстаў Ватыкана" — 2,

— западзроных у сектанцтве — 1 (западозраны кляўся публічна, што больш не будзе піць, што з'яўляецца відавочным доказам схільнасці да баптызму),

— хрышчоных у пратэстанты — 1, хрышчоных у заходнім абрадзе — 1 (ды і то памылкова!).

Колькасці жыдоў, масонаў і цыклістаў не ўдалося ўстанавіць. Відаць, добра хаваюцца. Усё-такі, з падлікаў ясна відаць, што „Ніву" апанавалі цёмныя сілы і неабходна, каб заняліся гэтым адпаведныя ўстановы, бо раднаму Радкевічу, нават з дапамогай бельскай гарадской управы, з гэтым не справіцца.

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

## ПАВАЖАНЫЯ СЯБРЫ „ЗНІЧА", НАРОД ВАС ШЧЫРА КЛІЧА

„Зніч" наведаў нас увечары 27 лістапада б.г. Хаця я раней чытаў у „Ніве" (47 н-р) нататку Янкі Мордана, не разабраўся як след у заканчэнні і не ведаў аб тым, што менскія артысты прыедуць і ў Дубічы.

Я якраз упраўляўся ў гаспадарцы, карміў жывёлу, калі на мой падворак зайшоў Янка Мордань і сардэчна запрасіў на спектакль у наш асяродак культуры. І іншых жыхароў нашае вёскі запрашаў Янка, хадзіў ад хаты да хаты.

Я, справіўшыся з абавязкамі, пабег дадому і напісаў прывітальны верш нашым братам з беларускае сталіцы. Недзе а 18 гадзіне артысты пачалі сваё выступленне для жыхароў Дубіч. На самым пачатку выступіў Янка Мордань, арганізатар розных карысных мерапрыемстваў-вандровак нашых артыстаў па Беласточчыне.

Выступленні не былі з простых, але, думаю, што гледачы ўсё зразумелі. Зала была поўная моладзі і старэйшых, для якіх неабыякавы родная мова, культура, спадчына; свая на Беласточчыне, і братоў за мяжой. Толькі адно мяне здзівіла: артысты са „Зніча", калі гаварылі пра сябе, сваю краіну — Беларусь называлі проста „рэспублікай". А мо' так і трэба?

**М. ПАНФІЛЮК**

## З КОЖНАЙ СЯМ'І — ПА БУТЭЛЬЦЫ

*Раней я слухаў людскія словы і верыў у іх справы. Цяпер жа слухаю людскія словы і гляджу на іх справы.*

*Канфуцый*

Гляджу я на пабудову Беларускага музея ў Гайнаўцы. Будуецца ён надта доўга. Наконт яго стварэння даволі многа было сказана і напісана. Нягледзячы на ўсе складанасці, музей будуецца пастаянна. План пабудовы грандыёзны. Цяжка нават паверыць, што некалі музей будзе адным з большых у краіне. Аднак узнікае пытанне: ці мы, беларусы, зможам утрымаць такі аб'ект? Ці будзе ў яго беларускі характар? Адны ў гэта вераць, іншыя сумняваюцца. А музей будуецца. Ці магчымае было б такое без ахвярнасці і настойлівасці спадара Кастуся Майсені? Цяжка паверыць, што гэты чалавек фактычна сам адзін заўзяўся здзейсніць такую грандыёзную задуму. Часта ён сустракае больш апанентаў, чым прыхільнікаў. Цяпер ужо столькі зроблена, што можна верыць у паспяховае заканчэнне пабудовы музея. На жаль, яшчэ ёсць такія, што скептычна да гэтага адносяцца. А ці не варта і трэба ўсім беларускім арганізацыям і дзеячам згуртавацца вакол гэтай справы, сур'ёзна падысці да стварэння Беларускага музея ў Гайнаўцы?

Спадар Майсеня падлічыў (а ён у будаўніцтве і бухгалтэрыі добра разбіраецца), што калі б кожная беларуская сям'я ў Польшчы перадала на пабудову музея суму грошай роўную толькі кошту адной бутэлькі гарэлкі, дык пабудова закончылася б паспяхова. Беларускі музей у Гайнаўцы стаў бы рэальнасцю. Вось так!

**ЯН МОРДАНЬ**

## ПРЫВЯЗІЦЕ НАМ БЕЛАРУСКУЮ ПЕСНЮ!

Думаю над адной справай: чаму беларускія фестывалі адбываюцца толькі ў гарадах і мястэчках? Чаму ніколі не арганізавалі які-небудзь у вёсцы? Можа ў ГП БГКТ думаюць, што не будзе слухачоў? Не, мілыя, нашы вёскі на Гайнаўшчыне бурляць яшчэ жыццём! Няхутка яшчэ зраўняюць нас з раллёй! Адно можа стацца, што хтосьці арганізуе такі фестываль, але будзе называцца ён не беларускім, а ўкраінскім. Не думайце там, галоўныя, што ад нас ужо ўсе паўцякалі ў горад і адтуль крычаць: „Ратуйма родную мову!", а самі размаўляюць па-польску. Каб палюбавацца беларускай песняй і танцам, самі сабе арганізуюць фэстыны. А ці не было б добра заглянуць на вёску? Не толькі можна, але і трэба! Час таго патрабуе! Не ўсе вёскі зараслі сасоннікам, спадар Яновіч!

Калі мы патрэбныя, пра нас успамінаюць. Так было, і будзе. Памятаю, некалькі дзесяткаў год назад, перад кожным чарговым з'ездам БГКТ, паяўляліся прадстаўнікі, наведвалі гурткі. Наша вёска вялікая, моладзі многа, у хаце ўсе ледзь памесцяцца. Прадстаўнік праўлення перачытвае членаў з папкі, прывезенай з Беластока. А пералік той — смеху варты! У ім „фігуруюць" члены, якіх ужо дзесяткі гадоў няма на тым свеце! Многія пажаніліся, павыходзілі замуж, дзяцей прывялі на сход. Але ў паперах — парадак. Выбралі дэлегата. Выбралі потым праўленне і на пару добрых гадоў зноў спакой, ніхто ў нашу вёску не загляне. А наша вёска вялікая, спалучылася з суседняй, з Махнатым. Ці ў такой вялікай вёсцы нельга было б арганізаваць беларускі фэстын? Бярыце прыклад з украінцаў, якія ўваходзяць на пакінутае. Арганізавалі яны ўкраінскі фестываль, але не абмежаваліся да Бельска, а былі з песняй і ў Чыжах, Койлах, Ягадніках, Тафілаўцах. Бачыце, колькі радасці можна прынесці людзям на вёсках! Яны гэтага чакаюць, мала ў нас забавы на штодзень. Калі слухалі па радыё пра гэты фестываль, то некаторыя пусцілі слязу: а чаму ж то беларусы да нас даехаць не хочуць? Чаго ім не хапае? Вось, калі я пішу гэтыя словы, даведваюся, што з Украіны да нас прыедзе гурт „Калына". Жадаю яму прыемных успамінаў з нашай вёскі.

**ГРЫША МАРОЗ**

## „ЖАВАРАНАЧКІ" Ў БЕЛАСТОКУ

24 і 25 лістапада гэтага года ў пачатковых школах н-р 33 і 45 у Беластоку ды ў школе н-р 3 у Бельску-Падляшскім адбыліся канцэрты дзіцячага танцавальнага гурту „Жаваранкачкі" з Менска. Гурт пабываў на Беласточчыне па запрашэнню Беларускага саюза ў Польскай Рэчыпаспалітай і прадпрыемства „Elvimex" у Беластоку. Перад беластоцкай публікай выступала 34-асабовая група ваў ўзросце 7—16 гадоў (цэлы гурт налічвае 150 юных артыстаў з менскіх школ). „Жаваранкачкі" зрабілі сімпатычнае ўражанне на гледачах, задзіўляючы іх сваім прафесіяналізмам.

У Беластоку танцоры выступалі ў школьных спартыўных залах, у Бельску-Падляшскім (школа н-р 3 не мае спартыўнай залы) канцэрт адбыўся ў доме культуры. Трэба заўважыць, што не быў гэта першы візіт „Жаваранкачкаў" у Польшчы. Раней гурт выступаў у Гарадскім доме культуры ў Беластоку, пачатковай школе ў Нарве ды пачатковай школе н-р 9 у Беластоку.

Усім асобам і ўстановам, якія прычыніліся да арганізацыі гастроляў „Жаваранкачкаў" на Беласточчыне Управа Беларускага саюза сардэчна дзякуе.

**Сакратар Управы БС**
**ПЯТРО КРУК**




# АДКАЗ НА ПАПРОКІ бр. БРАНІСЛАВА КАВЭЦКАГА

У „Ніве" н-р 44 ад 31.10.1993 г. брат Браніслаў Кавэцкі выступіў з папрокамі супраць мяне. Буду адказваць на іх па чарзе:

1. У артыкуле „Яшчэ раз аб братах Хрыста" брат Кавэцкі, прывёўшы заўвагу да сціхоў 12:46-47 Евангелля ад Мацвея, дзе напісана, што ў Евангеллі называюць братамі і сёстрамі дваюрадных братоў і сясцёр сцвярджае: „Jak z tego wynika, nawet Moskowskaja Patriarchija „не вельмі чыстымі метадамі імкнецца даказаць гэту тэзу". Я адказаў, што не вінаватая Маскоўская Патрыярхія, а толькі той, хто напісаў гэту заўвагу (зноску). Я ў Біблії Тысячагоддзя не абвінавачваў за зноску, якая там напісана, кардынала Вышынскага (які напісаў уступ да гэтай Біблії), а толькі тых, якія напісалі гэту зноску, дзе пераконваюць, быццам Евангелле было напісана на стараяўрэйскай, а гэта з'яўляецца няпраўдай. Бр. Кавэцкі піша:„Panie Szatyłowicz, to jest jakieś nieporozumienie! Coś tu Pan przegalopował!". Не разумею логікі: ці Маскоўская Патрыярхія можа быць абвінавачаная за заўвагу да сціха ў Евангеллі, якую напісаў нехта ў Брусселі ў выдавецтве „Жизнь с Богом"?

2. Далей брат Кавэцкі піша: Natomiast bardzo boleję nad Pańską ciętą wypowiedzią o pozbawienie sławy dobrego imienia ś.p. o Walentego Prokulskiego, tj. tego, kto jest autorem tej znoski. Czy dlatego, że sam on nie może się bronić, wolno Panu szkalować i poniżać go? Skąd Pan wie, że o. Walenty Prokulski, żyjąc i pracując „не вельмі чыстымі метадамі стараўся даказаць?" Jako pokrzywdzonemu, należy mu się przepro-szenie. Czy Pan to uczyni?" Гэта нейкае недаразуменне. Я не ведаю, ці Валенты Пракульскі з'яўляецца аўтарам згаданай зноскі. Ён быў толькі перакладчыкам Евангелля ад Мацвея, а зноску мог напісаць нехта другі. А калі ён з'яўляецца яе аўтарам, то ён адказвае за яе змест. Не веру, што ён не ведаў, што ніводнае Евангелле не было напісана на стараяўрэйскай мове і што сціх 12:46 Евангелля ад Мацвея быў амаль поўнасцю перапісаны з Евангелля ад Марка (3:31). Аб гэтым даўно ўжо пісалася ў працах даследчыкаў Евангелля, аб якіх ён павінен ведаць. А гэта зноска ўводзіць людзей у зман, што Евангелле ад Мацвея было напісана на арамейскай ці стараяўрэйскай мове. А закідваць мне паклёп — несумленна. Калі б я напісаў няпраўду, тады мне можна абвінавачваць у паклёпніцтве і толькі тады я б яго мог перапрасіць.

3. Ці выдавецтва „Жизнь с Богом" у Брусселі з'яўляецца верагодным для праваслаўных? Я маю Евангелле на рускай мове, выдадзенае яшчэ ў 1910 г. у Расеі і там няма ніякіх каментарыяў. Евангелле выдавецтва „Жизнь с Богом" мае 402 старонкі, а 110 старонак займае „Краткий толкователь к Новому Завету". Калі б гэты „Толкователь" быў напісаны праваслаўнымі тэолагамі, я б не меў ніякіх заўваг. Але відаць, што апрацоўвалі яго не праваслаўныя, а каталіцкія тэолагі. Напр.: каментарый да сціха 15:26 Евангелля ад Іаана, дзе Ісус Христос сказаў: „Дух праўды, які ад Айца паходзіць" ёсць такі: „Дух святы паходзіць ад Айца цераз Сына (альбо таксама ад Айца і Сына), як ад аднаго пачатка". Гэты каментарый ёсць нязгодны з праваслаўным „Сімвалам Веры", а толькі з каталіцкім, дзе дадалі слова „фільёквэ" (ад Сына). У праваслаўным „Сімвале Веры" спяваюць на кожным набажэнстве: (Верую) и в Духа Святаго, Господа Животворящаго, Иже от Отца исходящаго, Иже со Отцем и Сыном спокланяема и славима, глаголявшаго пророки". У каталікаў дадаюць слова: „Сына. От Отца и Сына". І таму я напісаў, што „Евангелле", выдадзенае выдавецтвам „Жизнь с Богом" не можа быць верагодным для праваслаўных. Праваслаўная Патрыярхія ў часы камунізму, калі не дазвалялі ёй выдаваць Евангеллі ў Расеі, магла згадзіцца, каб ёй памагло выдавецтва „Жизнь с Богом", хаця гэта неправаслаўнае выдавецтва. Тады ў нашых цэрквах прадаваліся Евангеллі, выдадзеныя пратэстантамі.

Праваслаўная Царква ў першых стагоддзях хрысціянства, калі не была развітая рэлігійная крытыка, паверыла многім легендам Каталіцкай Царквы, напрыклад, што ап. Пётр быў у Рыме, або ў фальсіфікат „Эдыкта імператара Канстанціна да папы Сільвестра", прыдуманы ў 750 г. Лічыўся ён аўтэнтычным да XV стагоддзя і на ім будавалі аўтарытэт рымскіх папаў да XIX стагоддзя. Толькі ў XV ст. адкрылі, што гэта фальсіфікат. Падобных фальсіфікатаў выходзіла ў Рыме многа. Ці ап. Пётр быў у Рыме, сумняваюцца многія заходнія гісторыкі хрысціянства. Я ў сваім артыкуле спасылаўся на кнігу „Historia Papiestwa" ks. dr Szczepana Włodarczyka. Прывяду цытату з гэтай кнігі, калі аўтар ўспамінае „Ліст Рымлян да Карынфян", напісаны папам Клімам І (88-97 г.). Аўтар піша: Z „Listu Rzymian do Koryntian" wynika jedna pod tym względem prawda: Przy końcu I wieku nie znano jeszcze legendy o pobycie Piotra w Rzymie i o jego stanowisku „Księcia Apostołów". У кнізе „Wczesne Chrześcijaństwo I-X w." Ян Веруш-Кавальскі (wyd. KAW z 1985 г.) на 243 стар. піша: „Pobyt Piotra apostoła w Rzymie jest wątpliwy, jak również dane o jego rzymskim episkopacie i męczeństwie. Dużym nakładem prowadzone pod bazyliką św. Piotra w Rzymie poszukiwania archeologiczne niczego nie udowodniły". Падобных цытатаў я мог бы прывесці дзесяткі, як не больш. Але прывяду адну цытату з кнігі Марсэла Сімона „Cywilizacja wczesnego Chrześcijaństwa" (PIW 1979 г.). Аўтар піша: „Jego przybycie do Rzymu zostało, **zdaje się**, niesłusznie poddane w wątpliwość przez niektórych badaczy. Ale nie wiemy, kiedy przybył do stolicy i jak długo przebywał przed swym męczeństwem. Badania archeologiczne, podjęte niedawno w Watykanie, na spodziewanym miejscu jego grobu nie przyniosły rozstrzygających wyników". Так што не толькі я сумняваюся ў тым, ці ап. Пётр быў у Рыме, бо няма на гэта доказаў.

4/ Паводле брата Кавэцкага, калі б Багамаці мела б дзяцей з Язэпам, то страціла б гонар і славу, бо піша, што аўтар С. Н. у артыкуле „Яшчэ раз аб апостальскім Саборы" „bronił czci i sławy Dziewicy Maryi". Я думаю, што гэта язычаскія погляды, якія дайшлі да сённяшніх дзён, што жанчына, якая не страціла дзявоцтва, ёсць чыстая і лепшая чым жанчына, якая нарадзіла дзяцей.

5/ Аб абрадзе каранацыі ікон Багамаці ў праваслаўнай царкве я ніколі не чуў. Ікона Супрасльскай Багамаці сапраўды мае карону на сваёй галаве і на галаве Ісуса. Яе намалявалі ў заходнім стылі. Не ведаю гісторыі гэтай іконы, але не веру, што каранавалі яе праваслаўныя. Яна, відаць, была так намаляваная ад пачатку. Спрыць тут не буду, бо нідзе аб ёй я не чытаў.

6/ Брат Кавэцкі мае да мяне прэтэнзію, што я стаўлюся да яго задзірліва і крыўдна. Я прыватна нічога не маю да аўтара, а адказваю толькі на яго закіды і папрокі. Не я іх пачаў. Дзе і што я абразліва аб ім напісаў? Хутчэй наадварот. Калі я яго абразіў — перапрашаю.

7/ Бачу, што брату Кавэцкаму не падабаецца свабода выказвання поглядаў на рэлігійныя тэмы. Ці хацеў бы ён увесці рэлігійную цэнзуру? Я сам не спадзяваўся, што я ўвяду такую шуміху вакол тэмы братоў Ісуса. Тэма гэта не новая, даўно вядомая. Аб ёй пісалася дзесяткі гадоў таму назад, як не раней. Калі хто не хоча ў яе верыць — яго справа. Можна верыць ва ўсё. У Індыі я працаваў з людзьмі, якія верылі ў багіню Калі і насілі ёй ахвяры, бо яе баяліся. І між намі ніколі на гэтую тэму не было спрэчак. Я іх не крытыкаваў за гэта, але яны мне таксама не крытыкавалі за маю веру. Я веру ў адно, а вы верыце ў другое. Хай так астанецца. Астанемся пры сваіх поглядах.

**Д. ШАТЫЛОВІЧ**

# СВЯТЫ АПОСТАЛ АНДРЭЙ ПЕРШАЗВАНЫ



Апостал Андрэй паходзіў з Віфсаіды — горада, размешчанага на берагу Ціверыадскага возера. Ужо ў юнацтве вырашыў ён астацца ў чыстасці, заўважыўшы міязэрнасць гэтага свету. Калі пачуў аб прароку Іаане Хрысціцелю, які прапаведаваў у даліне Іардана, рашыў не жаніцца і стаў яго вучнем. Аднойчы, калі непадалёк праходзіў Ісус, Св. Іаан Прадцеча сказаў наступныя словы „... се Агнец Божый" (Іаан, 1:36). Тады Андрэй падаўся за Хрыстом, а потым расказаў аб Ім свайму брату Сіману (Пётру). Апостала Андрэя завуць Першазваным таму, бо першым пайшоў за Хрыстом і стаў Ягоным вучнем. Пасля сашэсця Святога Духа на Апосталаў, так як і іншыя вучні, пайшоў ён прапаведаваць Евангелле. Сваю місію праводзіў, між іншым, на землях вакол Чорнага і Каспійскага мораў, на Балканскім паўвостраве, а таксама ў Малой Азіі. Пабываў таксама над Дняпром. Паводле Святой Традыцыі, менавіта ён устанавіў першы крыж на кіеўскіх узгорках і прадказаў узнікненне на гэтым месцы вялікага горада, з якога хрысціянская вера распаўсюдзіцца на ўсе рускія землі.

Жыццё сваё Апостал закончыў пакутніцкай смерцю ў грэчаскім горадзе Патрасе на Пелапанескім паўвостраве. За непахіснае прапаведаванне хрысціянскай веры быў ён распяты на крыжы ў выглядзе літары X. Здарылася гэта каля 62 года.

Памяць Святога Апостала Андрэя ўшануем 13 снежня (30 лістапада паводле старога стылю).

**С. Н.**




## ПОЗНАНЬСКАЯ ПРАПАНОВА

На паліцах познаньскага антыкварыяту ў свабодным продажы знаходзіцца шмат кніжак і часопісаў, якімі могуць папоўніць свае дамашнія біблятэкі „ніўскія" кнігалюбы. У „Katalogu nr 53" называюцца, вось, такія выданні:

**Czasopisma:**

Poz. 5 — „Ateneum Wileńskie" (tytuł poświęcony badaniom przeszłości ziem W. X. Litewskiego), R. I (1923), nry 2, 3/4 — po 40 tys. zł.

Poz. 9 — „Biełoruski Kalendar Naszaje Niwy na 1912 hod", Wilno, 1912. Cena 100 tys. zł.

Poz. 23 — „Dziennik Urzędowy Zarządu Cywilnego Ziem Wschodnich", Warszawa, Wilno. R. 1 (1919) — nr 14; R. 2 (1920) — nry 31, 36, 52, 53, 57, 59 — po. 20 tys. zł.

Poz. 45 — „Kalendarz-Almanach „Dziennika Kresowego" na rok 1932", Grodno. Cena 180 tys. zł.

Poz. 85 — „Miesięcznik Osadniczy" (tytuł poświęcony sprawom osadnictwa Kresów Wschodnich), W-wa, R. II (VIII) — 1930. Cena 360 tys. zł.

Poz. 116 — „Pierwszy powszechny spis Rzeczypospolitej z dnia 30.I.1921 roku. Mieszkania, ludność, stosunki zawodowe", Warszawa 1927, T. 19 (Wojew. Białostockie); T. 20 (Okręg administracyjny wileński); T. 21 (Wojew. Nowogródzkie) — po 200 tys. zł.

Poz. 122 — „Polacy i Rusini", Warszawa 1935. Cena 80 tys. zł.

Poz. 186 — „Sprawozdanie Towarzystwa Rozwoju Ziem Wschodnich z działalności 11.X.33 — 11.X.36 " (W-wa 1936); toż samo: w okresie sprawozdawczym 11.X.36 — 22.V.38 (W-wa 1938) — po 60 tys. zł.

Заказы можна накіроўваць на адрас:

Antykwariat im. J. K. Żupańskiego s.c.,
61-772 Poznań,
Stary Rynek 53/54
(tel. 52-63-12).

**ПЁТР БАЙКО**

# „КАЛЯНДАР" БРАЦТВА

Адной з выдавецкіх навінак Брацтва праваслаўнай моладзі ў Польшчы з'яўляецца насценны каляндар на 1994 год — каляндар, якога яшчэ не было! Сваёй формай і графічнай апрацоўкай нагадвае каляндар, які два гады таму спансаравала, між іншым, фірма Таёта, але гэтым разам выданне значна ўзбагачанае. На дванаццаці асобных лістках каляндар паведамляе пра прыпадаючыя на дадзены месяц праваслаўныя святы, адзначае ўсе посныя дні да дапаўняе гэта штодзённымі чытаннямі са Святога Пісання. Новы каляндар Брацтва двухмоўны — усе інфармацыі, згодна жаданню большасці яго пакупнікоў, пададзены ў польскай і беларускай мовах. На графічную апрацоўку календара складаюцца графікі Таццяны Місіюк з выявамі новых цэркваў Беласточчыны: сабора Святога Духа на Антонюку, царкваў Прамудрасці Божай на Выгодзе і Св. Панцеляймона ў Засцянках ды капліцы Св. Ефрасінні Полацкай у Старасельцах, царкваў у Бельску-Падляшскім, Чыжах, Чорнай-Беластоцкай, Грабарцы, Гайнаўцы, Ячне, Ялоўцы і Крушынянах.

Спонсарамі гэтага выпуску праваслаўнага календара з'яўляюцца: „Праваслаўны агляд", „Ортдрук", „Часопіс", Фонд праваслаўнай моладзі Св. Ільі, тыднёвік „Ніва", Фонд падтрымкі развіццю праваслаўнай культуры, часопіс „Фос", „Навіны Брацтва" ды Радыё Беласток.

Каляндар даступны ва ўсіх праваслаўных храмах Беласточчыны ды ў бюро Брацтва праваслаўнай моладзі ў прыхадскім будынку пры вул. Ліповай 15 А (другі паверх), тэл. 2 65 28.

**У. Місеюк**

# ЧАГО Я НЕ ПАСПЕЛА СКАЗАЦЬ...



*Мікалай Пучко, Міраслава Лукша і Мікалай Лук'янюк.*

Я цешылася, што адбудзецца з'езд карэспандэнтаў „Нівы" і ўбачу Пятра Байко ды спытаю ў яго, ці даследчыкі таямніц Белавежы атрымалі дазвол „Санэпіду" на раскопкі магіл ахвяр заразы з Крыштапова. На жаль, наш шматгадовы карэспандэнт не змог прыехаць на сустрэчу.

Хацела я таксама запытацца ў Міколы Панфілюка, чаму ён хваліць тое, а не іншае. Ї яго не было на з'ездзе. Не з'явіўся і Васіль Петручук. На тэлефанічныя просьбы Міколы Лук'янюка адказаў: „Люблю, але не прыйду". Хіба ж „украінцам" не стаў?!

Трохі запозна пачаўся з'езд. Не змагла я сказаць усяго, што хацела.

На з'ездзе былі нас дзве жанчыны. Не ведаю, чаму не горнемся ў карэспандэнты. Ці не хочам, ці мо саромімся, ці, можа, сем'і не дазваляюць? Можа мы перакана{ны} ў тым, што мужчыны могуць усё, а мы — не?..

Мова, на якой мы пішам — штучная, „літаратурная". Кожны карэспандэнт павінен штодзённа гаварыць на дыялекце яго вёскі. Трэба, каб чытачы ведалі, што такія дыялекты ёсць. Можна было б выдзеліць адну палоску для тэкстаў на гаворцы. Гэта, думаю, не зашкодзіць „Ніве", а чытачоў зацікавіць.

Што датычыць выбараў і навучання беларускай мовы, то трэба сказаць: беларусы за іншымі народамі не сто гадоў, а тысячу! Успомнілася мне мая размова з адной жанчынай з Украіны. Калі немцы вывезлі яе на прымусовыя работы, пазнаёмілася там з адным хлопцам. Пасля вайны прыехала да яго сям'і, пабраліся шлюбам. Сказала мне, што яна не „чыстая ўкраінка", сям'я яе жыла каля мяжы з Беларуссю. Аднойчы на ўроку ўкраінскай мовы яе настаўніца, гаворачы аб суседзях Украіны, сказала аб беларусах, што гэта слабы народ, які ніколі не дачакаўся свайго правадыра, і ідзе туды, куды павее вецер.

Тая настаўніца, на жаль, мела рацыю. Свядомых беларусаў мала. Іншыя могуць сябе акрэсліць, а з нашымі цяжка. Пераконваць іх трэба, каб галасавалі на сваіх, каб пускалі дзяцей вывучаць родную мову. Толькі, ці тое пераконванне дапамагае? Думаю, што калі ў чалавека няма свае́й свядомасці, свайго розуму, то не дапаможа яму пераконванне. У мяне свядомасць, што я — беларуска, нарадзілася ў маленстве. Мая мама спявала ў царкоўным хоры. Калі бацюшка рабіў „спеўку"-рэпетыцыю хору, я ішла туды разам з мамай. Аднойчы адна з „пеўчых" запыталася ў бацюшкі Міколы Шабеляна: „Бацюшка, а хто мы? Як мяне пытаюць, я кажу, што руская". „Не, — адказаў ён. — Мы — беларусы". Столькі гадоў прайшло, а я гэтай размовы не забуду!..

Вельмі цешыць мяне, што з „Нівай" супрацоўнічаюць і адукаваныя людзі. Адно мяне толькі хвалюе: дакуль будзе існаваць наша „Ніва", ці заўсёды знойдзецца спонсар, каб ёй дапамагаць? Мы пісаць можам і задарам, але грашыма выдавання не можам успамагчы. Час пакажа, як будзе далей.

На заканчэнне хачу сказаць, што з'езды трэба арганізаваць штогод, як было раней. Ці ж не прыемна ўсім сабрацца і паразмаўляць пра нашыя справы?

**АЎРОРА**

**Фота ЯНА МОРДАНЯ**



*Міхал Голуб, Мікалай Пучко, Ганна Кандрацюк, Славамір Іванюк і Дарафей Фёнік.*

# НЕ ТРЭБА МЯШАЦЬ!

Помню, як на аўтарскіх сустрэчах Сакрат Яновіч супакойваў слухачоў, што Беларусі прысуджана незалежнасць, ну бо хто возьме дзесяцімільённы народ на сваю галаву. Аказваецца, што ахвотных з усходу і з захаду — нямала. Народ як народ, але зямля, прастора заўсёды прыдасца. Народ можна паразвозіць па Саюзе (СНД?), а з тых, хто астанецца, зрабіць савецкага (эсэндоўскага) чалавека.

З захаду натуральным ходам вядзецца паланізацыя пры дапамозе каталіцкага духавенства і спрыяючай яму посткамуністычнай улады ў Менску. Прытым, хто хоча быць бедным беларусам, калі можна быць хоць бы трошкі багацейшым палякам, прынамсці такім, якім бачаць яго грамадзяне РБ, пабыўшы ў Польшчы на „турыстычнай паездцы"?

Аб тым, што меркаванні палітычнай улады ў Польшчы ідуць у напрамку аднаўлення ўплываў у беларускім народзе, сведчыць інтэрв'ю беластоцкіх каталіцкіх іерархаў для часопіса „Gość Niedzielny".

Вылезла шыла з мяшка. Экуменізм экуменізмам, але найлепш не прызнаваць існавання беларусаў на Беласточчыне. Могуцуь быць татары, яўрэі, украінцы, але жыхары Гайнаўшчыны, Бельшчыны ці Сакольшчыны — гэта завезеныя маскалямі расейцы ў месца сасланых у Сібір палякаў.

Думаю, што гэта вельмі небяспечная палітыка, і нішто ў ёй не дзеецца без прычыны. Бо ці ж так выпадкова ў Бельску з'явілася ўкраінская дыяспара?

Калі сяк-так наладжваюцца адносіны між дзяржавамі, трэба разрушыць спакой на ўзбярэжжах, там, дзе мяшаюцца нацыянальнасці. Відавочна зноў трэба стварыць жалезную заслону, якая адгароджвала б два светы: каталіцкую Польшчу і праваслаўны Усход з мэтай вярнуць былыя тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага. Традыцыя тысячагодняга напору на ўсход забаўляе. Трэба адкрыць скрынку Пандоры з нацыяналізмам, узаемнай нянавісцю, каб на развалінах збудаваць... Але — што? Камусьці перашкаджае адраджэнне Беларусі, хтосьці пхае Беларусь у абдымкі ўсходняга суседа. Калі Беларусь слабая, можа яшчэ раз яе падзелім, як гэта было ўжо, не пытаўшы нават, што народ аб гэтым думае?

Польска-беларускае памежжа — гэта не памежжа паміж былымі рэспублікамі Югаславіі. На гэтым памежжы мусіць быць спакой, бо інакш парушыцца спакой у Еўропе (думаю, што такая зараз рэчаіснасць), і лепей не мяшаць, а з усмешкай перааддольваць штодзённыя перашкоды рынкавай гаспадаркі.

**МІХАСЬ КУПТЭЛЬ**

# КАНФЕРЭНЦЫЯ Ў ГОРАДЗЕ ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ

**Частка I**

Дагэтуль я ніколі не быў у слаўным беларускім горадзе Полацку. У кастрычніку надарылася нагода наведаць гэты горад з прычыны арганізацыі ў ім міжнароднай канферэнцыі, прысвечанай 110-м угодкам Вацлава Ластоўскага, які паходзіў з Полаччыны. Канферэнцыя праводзілася ад 26-га па 29-ты кастрычнік 1993 года.

Горад Полацак, у якім жыла і дзейнічала падзвіжніца Ефрасіння Полацкая, здзівіў мяне сваёй непаўторнасцю. Складаецца ён са старой і з новай частак. У старой жыве каля пяцідзесяці тысяч людзей, у новай — каля ста тысяч. Наваполацк быў збудаваны пасля вайны ў чыстым полі і няма ў ім ніводнага старога дома. Балюча мяне ўразіла тое, што як у старым, так і ў новым Полацку не сустрэў я беларускіх надпісаў. У гэтых дзвюх частках усеўладна пануе расейшчына. Старая частка горада здзіўляе святынямі. Вялікае ўражанне выклікае Сафійскі сабор, які пасля пераробак у часе панавання уніяцтва набыў поўнасцю касцельны выгляд і ў нічым не нагадвае царкву. Затое Ефрасіннеўская царква — святыня XII стагоддзя — дайшла да нас у сваёй арыгінальнай сярэднявечнай форме. Сустрэў нас у Ефрасіннеўскай царкве малады мастак-рэстаўратар, які быў перашколены ў галіне рэстаўрацыі старажытных помнікаў у Рыме. Расказаў нам, што на сценах Ефрасіннеўскай царквы знаходзіцца сем напластаванняў жывапісу і што пры сучаснай тэхніцы існуе магчымасць сфатаграфаваць усе сем пластоў і адрэстаўраваць першы слой. Зразумела, што працэс гэты складаны і вымагае вялікіх фінансавых выдаткаў. Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь такія грошы знайшло і следам за Сафійскім саборам, які ўжо поўнасцю адноўлены, вядуцца інтэнсіўныя работы па рэстаўрацыі Ефрасіннеўскай царквы.

Мастак-рэстаўратар, зусім малады чалавек, які дасканала валодае беларускай мовай, паінфармаваў нас, што ў Ефрасіннеўскай царкве ўтрымліваецца адпаведная тэмпература, неабходная спыненню дэградацыі фрэскаў і мошчаў, якія пасля многіх пертурбацый і перавозак, захоўваюцца ў гэтай святыні ў драўлянай грабніцы. Дагэтуль не ўдалося знайсці славутага крыжа Ефрасінні Полацкай, які ў раннім сярэдневякоўі быў выкананы майстрам Богшам, і які мае выключнае значэнне і як мастацкі выраб, і як сакральная каштоўнасць. Нягледзячы на ўсе старанні грамадскіх арганізацый, уладам рэспублікі Беларусь дагэтуль не ўдалося пападці на след гэтай выдатнай рэліквіі. Пошукі па ўсіх музеях свету не далі рэзультату. Беларусь у сваім адчаю звярнулася нават да балгарскіх прарочыц. Адна з іх доўга крэсліла шлях Ефрасіннеўскага крыжа і ў канцы паказала на ЗША, як краіну, у якой знаходзіцца крыж. Гэта пацвердзіла ўжо ранейшую тэзу аб тым, што беларуская рэліквія знаходзіцца недзе ў амерыканскай прыватнай калекцыі. Другая прарочыца адказала коратка і лаканічна: „Чаго беларусы хвалююцца, крыж Ефрасінні хутка знойдзецца".

На мяне найбольшае ўражанне зрабіла келля Ефрасінні Полацкай. Ідзецца да яе па дванаццаці адной ступенцы ўздоўж выгнутай сцяны вельмі вузкім калідорчыкам. Калі рэстаўратар сказаў, што ў келлю ён можа пусціць усяго некалькі чалавек, я ірвануў як ашалелы, баючыся, што мяне не прапусцяць. Ї мне ўдалося. Келля збудавана ў форме крыжа, яе паверхня каля трох квадратных метраў. Гэта ў ёй Ефрасіння Полацкая штодзённа малілася і перапісвала кнігі. Як у гіпнозе стаяў я там доўга, аж рэстаўратар амаль што сілаю вывеў мяне, цягнучы за рукаў. У маім уяўленні ажыло дванаццатае стагоддзе, у якім жыла і дзейнічала заступніца беларускай зямлі Ефрасіння Полацкая, якая адкінула перспектыву багатага свецкага жыцця і аддала ўсе свае сілы служэнню Богу і духоўнасці.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# НЕБЯСПЕЧНА РОБІЦЦА НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

Вельмі небяспечнай робіцца наша краіна ў апошні час. Хутка ўзрастае лік злачынстваў, пагражаючых жыццю чалавека, не ўспамінаючы ўжо пра крадзяжы маёмасці і ўсялякія фінансавыя аферы. Як правіла наглядаецца факт, што парушэнні права пабольшваюцца ў сітуацыі эканамічнага крызісу, беспрацоўя і грамадска-гаспадарчых пераўтварэнняў. Гісторыя не ведае такіх прыкладаў, каб у крызіснай сітуацыі паменшваўся ўзровень злачыннасці і таму тое, што цяпер выступае ў Польшчы і суседніх краінах, ёсць як бы і згодна з логікай працэсаў, якія тут адбываюцца. Можна наракаць на паліцыю ці іншыя фактары, якія маюць непасрэдны ўплыў на стан бяспечнасці, але без грамадска-эканамічнага кантэксту немагчыма высветліць прычыны гэтай з'явы.

Паводле рэестраў Ваяводскага суда ў Беластоку, у кастрычніку г.г. разглядалася 8 крымінальных спраў, у якіх злачынцы абвінавачваліся ў забойстве чалавека.

Побач гэтых — крайне кашмарных — суд разглядаў некалькі спраў з галіны сексуальных дэвіяцый жыхароў нашага ваяводства, не менш кашмарных, як забойствы, — справу Марка Ї., Ігара П. і Чарка С. з Сямяціч, якія ў варварскі спосаб згвалтавалі жыхарку гэтага горада.

Калі чытаецца спісак злачынстваў толькі з нашай ваколіцы, заўсёды ўзнікне пытанне, чаму чалавек пераўтвараецца ў найгоршую жывёлу, якая забівае, хаця яна негаладная.

У Беластоку Кшыштоф О. (29 гадоў) зарэзаў на вуліцы Вальдэмара В., Славамір О. тое ж самае зрабіў Андрэю Ч., толькі што ў яго дома. Рамуальд С. нагамі раздушыў чэрап Чаславу З. Рамуальд С. за гэтае забойства атрымаў 3 гады турмы. Забіты быццам бы яго раздражніў!

12 год турмы атрымаў Роберт М. (19 гадоў) з Саколкі, які каменем рассек галаву Кшыштофу Ї. Некалькі разоў біў ляжачую ахвяру, пакуль паламаў усе косці чэрапа. На 5 гадоў прысудзіў суд Станіслава Б., які застрэліў калегу са службовага пісталета. Віктар С. засуджаны быў на 6 гадоў за тое, што кавалькам жалеза забіў Мікалая Б. Такі спісак злачынстваў можна было б яшчэ прадаўжаць...

За кожным фактам скрываецца чыясьці вялікая трагедыя. Забітыя мелі бацькоў, жонак, дзяцей. Віноўнікі, калі псіхічна ўраўнаважаныя, не будуць ужо такімі самымі людзьмі, як да часу злачынства. Лік ахвяраў і лік забойстваў быў бы намнога большы, калі б не намаганні лекараў, якія пару дзесяткам патэнцыяльных нябожчыкаў у апошні момант вярнулі жыццё.

Нішто не паказвае на тое, каб панізілася хваля злачынстваў. Пакуль не зменіцца эканамічная сітуацыя ў краіне, лік злачынцаў і ахвяраў надалей будзе ўзрастаць.

Рэд.

# ГІНУЦЬ ІКОНЫ

**На рынку ў Аструдзе (Ольштынскае ваяводства) паліцыя затрымала двух расейцаў з Яраслаўля. Мелі яны 24 іконы, якія намагаліся прадаць па 1-1,5 мільёна злотых, аднак ніхто не хацеў іх купляць. Іконы не мелі ніякіх пасведчанняў аб іх паходжанні. Саветы тлумачылі, што купілі іх у Варшаве ад незнаёмага мужчыны за 1,5 тысячы долараў. Нашыя ўлады арыштавалі расейцаў за тое, што мелі яны газавыя пісталеты без дазволу. Экспертыза, праведзеная гісторыкамі мастацтва выявіла, што згаданыя іконы напісаны пераважна ў XIX стагоддзі, а найстарэйшая з іх — у XVIII ст. Апошняя — гэта невялікая выява Хрыста Уседзяржыцеля (Пантакратара) у срэбнай рызе, вартасцю ў 9 млн. зл. Найболей было ікон Казанскай Божай Маці. Усе гэтыя іконы знаходзяцца пакуль што ў музеі; іх далейшы лёс яшчэ не вырашаны. З Інтэрпола стала вядомым, што прынамсі 9 з іх былі ўкрадзены ў 1990-1992 гадах у розных мясцовасцях Расеі.**

АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК




*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**ПЕРНІКІ З ЖЫТНЯЙ МУКІ**

Прадукты:

*40 дэкаў жытняй мукі,*
*400 мл мёду,*
*2 лыжкі гарэлкі,*
*прыправа для пернікаў.*

**Муку прасеяць, перамяшаць з прыправай. Мёд закіпяціць, уліць у муку, расціраць 20-30 мінут драўлянай галкай. Уліць гарэлку, яшчэ раз размяшаць, паставіць на некалькі гадзін у халадзільнік. Халадкаванае цеста раскатаць, падсыпаючы, калі трэба, крухмалам. Формачкай выразаць пернікі, класці іх на змазаную тлушчам бляшку. Спячы ў сярэднегарачай духоўцы. Не павінны пячыся да залатога колеру.**

ГАСПАДЫНЯ




Астронку! Мне прыснілася, што бачу я труну. Яна вельмі прыгожая, кветкі на ёй ляжаць і гараць свечкі. Вельмі непакоюся, бо ж мне яшчэ зусім не пара паміраць, я даволі маладая, а тут такі сон! Што мяне чакае?

**Таня**

Прыснілася мне, што да ўваходу ў блок, у якім я жыву, едзе трактар, але ад'ехаў назад. Я гляджу праз акно і бачу: пры ўваходзе ляжыць нежывы чалавек. Плечы ў яго голыя, чырвоныя. Думаю, трэба камусьці сказаць, каб яго забралі. Я ж не ведаю гэтага чалавека. І прачнулася.

А ў другім сне снілася, быццам мая суседка выходзіць замуж (у сапраўднасці яна замужняя). Яна апранутая ў чорнае. Многа людзей. Але ўсё гэта адбываецца каля гандлёвага павільёна. Вясельнікі едуць на веласіпедах.

**Яўгіння**

Таня! З твайго пісьма вынікае, што ты — жанчына ў сярэднім узросце („даволі маладая"). А труна ў сне толькі старым прадвяшчае кепскае (смерць), сямейным людзям у сярэднім узросце варожыць значны прыбытак, а маладым — вяселле і доўгае жыццё. Паколькі на труне ляжалі кветкі і гарэлі свечкі, абазначае гэта для цябе вялікую радасць. Калі б свечкі пагаслі — чакала б цябе нейкая страта.

Яўгіння! Твае абодва сны нядобрыя. Першы сон прадвяшчае табе небяспеку. За гэта гаворыць той мярцвяк з голымі чырвонымі плячыма. Другі сон абазначае, што будзеш мець непрыемнасці з трагічнымі кансеквенцыямі (суседка выходзіць замуж, а апранута ў чорнае). Мусіш да ўсяго гэтага падрыхтавацца.

**АСТРОН**

# ТУРБОТЫ СТАРОЙ НІНЫ

- Слушна кажуць: малыя дзеці - малыя клопаты, вялікія дзеці - вялікія клопаты, - казала суседцы старая Ніна. - І ў мяне гэтак сама: казалі людзі, што пазнаёміўся мой сын з адной жанчынай, а яна, маўляў, аказалася п'яніцай, ды яшчэ з дзіцёнкам на руках. Мужык быццам бы кінуў яе, бо не мог з такой, а мой дурань на гэтую алкагалічку кінуўся - было б на што! У хаце нічога няма - усё прапіла!

А сын прыгожы, кавалер хоць куды - ты ж ведаеш! Да таго ж не п'е і не курыць. І што ён толькі ў ёй знайшоў? Думалі мы з маім старым, як яго ад той халеры адвадзіць, і вырашылі так: мужык мой дома застаўся гаспадарыць, а я да сына паехала - бо ён любіць мяне больш за бацьку.

Прыехала я ў Беласток і пайшла да Міколы на працу. Сама разумееш - не хацелася мне ісці ў кватэру той алкагалічкі. Дачакалася я, пакуль сынок працу скончыць, селі мы на лаўцы, я і пытаюся: "Што ж гэта ты, Коля, на кепскую дарогу ступіў?" "Як гэта на кепскую?" - не зразумеў ён. "Ды вось, з п'яніцай жывеш...", - кажу, а той толькі абурыўся: "Гэта яе суседзі не любяць, таму і пляткуюць. Мая Юлька не п'яніца. Зараз пойдзеш да нас, убачыш. Праўда, у кватэры амаль нічога няма, але нажывем як-небудзь".

Прыйшла я да іх і бачу - кватэра малая, сцены голыя, а з мэблі - стол, ложак, шафа ды зэдлікі. А Юлька як убачыла мяне, дык пачала дрыжаць. "Што гэта ты дрыжыш, - пытаюся, - мо холадна?" "Не, - кажа, - проста баюся, што вы пачнеце лаяцца. Суседзі пра мяне такога наплялі..."

Тут прыбегла і дачка яе. Дала я малой падарунак, і селі вячэраць. Бачу - Юлька тая сапраўды прыстойны чалавек. "А што ж тады суседзі пра цябе так кепска адзываюцца?" - пытаю я. "То з зайздрасці, - кажа тая, - іх мужы кінулі, дык ніяк кавалераў знайсці не могуць". "А што ж ты развялася? - пытаюся зноў. - Казалі, што муж цябе кінуў таму, што ты, маўляў, алкагалічка". "Што вы! - абурылася Юліта. - То я сама яго прагнала. Праўда, гарэлкі ён не піў, затое за кожнай спадніцай бегаў. Падумайце, хіба з такім можна жыць? Вось ён і распусціў плёткі, нібыта я алкагалічка - са злосці, пэўна..."

Карацей, пагаварылі мы гэтак увесь вечар, паклаліся спаць, а зранку дахаты паехала. І цяпер вось не ведаю, каму верыць: ці ёй, ці тым людзям? Можа, і сапраўды някепскі чалавек тая Юлька?

Ох, праўду людзі кажуць: малыя дзеці - малыя клопаты, вялікія дзеці - вялікія клопаты, - уздыхнула старая Ніна...

АЎРОРА

# КРЫЖАВАНКА



**Упоперак:** 2. горад у Эстоніі, 4. загарода, перапынак, 6. французскі баявы самалёт, 7. група, падраздзяленне, 9. частка спектакля, 11. абжора, 12. японская выспа, 13. спод, 15. край, мяжа, 17. труба для адводу дыму, 18. рэгіён Іспаніі з Севільяй, 19. яўрэйская абшчына.

**Уніз:** 1. не праведнік, 2. колькасць экземпляраў аднаго выпуску, 3. дамоўленасць, 4. жыхарка адной з еўрапейскіх сталіц, 5. навука пра земляробства, 6. служыць у флоце, 8. тканы выраб на падлогу, 9. важная міжнародная арганізацыя, 10. шырокая круглая пасудзіна, 14. іспанскі ўбогі шляхціц, 16. старшыня рэлігійнай абшчыны хасідаў, 17. самец казы.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на геаграфічную віраванку з 43 н-ра: Лусака, Маскат, Валета, Маніла, Манама, Марока, Дакота, Луанда, Уганда, Тырана, Мадрыд, Малаба.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць **Зофія Борань** з Бельска-Падляшскага і **Мікалай Сазановіч** з Навінаў-Вялікіх.


**Ніва**

**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранові (галоўны рэдактар), Ян Мордань, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1994 r. upływa 20 lutego 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką do końca br. wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł., a od 1.01.1994 r. — odpowiednio 7000 zł. i 91000 zł. (jeżeli nie zdrożeją koszty wysyłki pocztą). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

МІЖ НАМІ

## НАПІЎСЯ

Марку пашанцавала! Закончыўшы адукацыю як інжынер знайшоў добрую працу, стаў кіраўніком бюро праектаў жыллёвых кварталаў горада. Усе паненкі на яго зіркалі, ды яму было не да іх. Маці часта прасіла: "Сыну, ажаніся, хоць мне на пацеху".

-- Вам у галаве толькі нявестка ды ўнукі, але ці вы падумалі, мама, пра маю свабоду?

Аднойчы дырэктар адправіў сваіх кіраўнікоў на курс павышэння кваліфікацый ў другое ваяводства. Там Марко спаткаў сябра з універсітэта, Андрэя. Той запрапанаваў наведаць свайго знаёмага. Марко не быў супраць цікава правесці вечар.

Жонка Мечыка нарыхтавала абед, гаспадар паставіў каньяк. Марку спадабалася гаспадыня. Добра выпілі. Андрэй заспяваў. Мечык папрасіў Марка, каб той перастаў заляцацца да чужое жонкі, бо іначай будзе прымушаны яго забіць. Госць не слухаў. Тады злосны гаспадар узяў яго, як малое дзіцё, на рукі, панёс да акна дый выкінуў з трэцяга паверха.

Суседзі пазванілі па лекара.

-- Вось да чаго даводзяць п'янкі! -- знерваваўся доктар. -- Вось як паламана нага ды рука! Невядома, ці не прыдзецца нагу ампутаваць.

-- Напіўся, кажаш? -- заплакала Маркава маці. -- Што цяпер з табою будзе?..

АЎРОРА

## ДЫЯЛОГ ЦВЯРОЗАГА З П'ЯНЫМ

— Чаму п'еш Гаўрыла?
— Таму што дурніла.
— Не будзеш цвярозым —
Прап'еш цалкам розум.

— Паўстрымацца цяжка
Ад новае пляшкі.
— Будзеш піць, Гаўрыла,
Зменіш твар на рыла.

ВІКТАР ШВЕД

## ПАЧУТАЕ

Калі сацыялізм завёў у тупік — куды тады нас завядзе рынак?






*Мал. В. Гагалушкі*

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

Зайздросная жонка закідае мужу, што да шлюбу хадзіў з многімі жанчынамі.

— Так, гэта праўда. Павінна ты ганарыцца гэтым, бо толькі ты адна дайшла да фіналу.

* * *

Дырэктар прымае на працу новую сакратарку:

— Колькі вы зараблялі на папярэднім месцы?

— Два мільёны.

— То я з прыемнасцю дам вам тры мільёны.

— З прыемнасцю дык я мела чатыры мільёны.

* * *

Палясоўшчык сустракае маладую дзяўчыну на ўскраіне лесу:

— Не баіцеся сама хадзіць? Вас жа можа нехта згвалтаваць.

— Калі б вы былі такі добры, то я далей і не пайшла б.

* * *

Гутараць маладыя дзяўчаты:

— Які прыгожы залаты ланцужок! Колькі ты за яго дала?

— Нейкіх пяць разоў.

* * *

— Татка, татка! Я знайшоў бабулю!

— Колькі разоў гаварыў я табе, пацан, каб не капаў ямак у агародзе!

* * *

Размаўляюць два мужчыны:

— Які прыгожы гэты май, — гаворыць адзін, — птушкі спяваюць, сонейка свеціць, усё з зямлі падымаецца...

— Цьфу, не гавары! Тыдзень таму пахаваў я цешчу.

* * *

— Якая розніца між чарадзейкай і чараўніцай?

— Амаль сорак гадоў.

* * *

Унучка выбіраецца на „прыватку":

— Як я выглядаю, бабуля?

— Прыгожа! А не забыла адзець майткі?

— А вы, калі ідзеце на канцэрт, кладзеце вату ў вушы?

* * *

— Ці дурнота мужчын можа быць прычынай разводу?

— Можа. Хаця часцей бывае прычынай вяселля.

* * *

У трамваі вялікая таўкатня. Адна жанчына звяртае ўвагу мужчыну:

— Пхаецеся быццам мядзведзь!

— Калі б мы былі толькі ўдваіх, дык вы называлі б мяне „мішачкам"!

* * *

Сустракаюцца дзве сяброўкі:

— Учора была я ў лекара; сказаў, што я цяжарная.

— З кім?

— Гэтага не сказаў.

* * *

— Я хацела б, каб ты купіў самаход, — гаворыць жонка мужу. — Аформіла б вадзіцельскія правы. Пазналі б Еўропу і свет.

— Гэты ці той?

Прыслаў
АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК

## ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(працяг; пачатак у 40 н-ры)*

### ХАТНІЯ ІСТОТЫ
### Стайнік

Гэтая істота, якая раней вялася на стайнях, з прычыны урбанізацыі перакінулася на гаражы, трамвайна-тралейбусныя дэпо і транспартныя паркі. Большасць угонаў самаходаў, аўтобусаў, трамваяў, ровараў, матацыклаў і нават танкаў можна вытлумачыць, калі ўзяць на веру, што Стайнік сапраўды існуе. Калі раней Стайніка можна было пабачыць у святле грамнічнай свечкі, то цяпер нават грамнічныя свечкі вырабляюцца выключна з парафіну, а не з воску, а таму Стайнік робіць свае справы беспакарана.

Вось якая гісторыя здарылася ў Менску неўзабаве пасля аднаўлення савецкай улады: вайсковы рэгуліроўшчык, стоячы на скрыжаванні Другой Шостай Лініі і Лагойскага тракта, заўважыў, што ў загарадным кірунку рухаецца вялікі чорны „опель-адмірал" з нацысцкай сімволікай на капоце, а ў кабіне нікога няма. Рэгуліроўшчык засвістаў, але самаход не спыніўся. За „опелем" была выслана пагоня. Нарэшце, за горадам, перагарадзіўшы шашу, машыну спынілі. Як высветлілася, машынай кіраваў вядомы беларускі крытык Алесь (Айзік) Кучар, які праславіўся ў літаратурных колах выключна малым ростам. З-за гэтай прычыны дробнага крытыка і не было бачна за рулём падоранага яму органамі НКУС трафейнага нямецкага самахода.

Так што яшчэ раз папярэджваем — сапраўднага Стайніка можна ўбачыць адно ў святле грамнічнае свечкі, усё астатняе — драбната і нікчэмнасць...

*(працяг будзе)*

Падрыхтавалі
ФРАНЦІШАК ХЛУС

## СЕНТЭНЦЫІ

Кот для вераб'я явіцца тыграм, для каршуна — вераб'ём.

* * *

Інтэлект, бы кветка, расцвітае ў праменнях сонца.

* * *

Уступчывасць не з натуры, а з яе зразумення.

* * *

Сон — пакрышаная ява, ява — пакрышаны сон.

* * *

Словы вартыя столькі, колькі вартыя ўчынкі, аб якіх гавораць.

БАРЫС РУСКО




Мілае Сэрцайка! Сёлетнім летам я зрабіла глупства, і да сёння не магу супакоіцца. Баюся.

А ўсё адбылося так. На канікулах я пазнаёмілася з амерыканцам. Быў гэта малады чалавек (23 гады), які прыехаў у госці да сваякоў. А мы з імі жылі вельмі добра, бо нашы дзверы ў блёку былі насупраць. Усе святы мы святкавалі з імі разам, дзяліліся радасцямі і смуткамі. Былі як адна сям'я.

Суседка цешылася, што мы пасябравалі з яе сваяком. Нават разбудзіла ў мяне надзею, што выеду ў Амерыку, бо хаця ён са мной і не ажаніўся, дык і так пакуль што мяне запросіць у госці. Я была захоплена гэтай перспектывай, тым больш, што якраз закончыла сярэднюю школу, у вышэйшую не паступіла, а працы таксама нідзе пакуль не знайшла. Ды, зрэшты, тады, летам я яе яшчэ нідзе і не шукала.

Я пакахала гэтага хлопца і, як мне здавалася, ён пакахаў мяне. На сэрцы было лёгка і радасна, і я зусім не шкадавала свайго дзявоцтва, якое зляжыла на алтары гэтага хлопца. Усё будзе „о'кей" — верыла я, што адкрываюцца перада мной нязвыклыя перспектывы.

Хлопец паехаў дахаты ў канцы жніўня. Я з нецярплівасцю чакала весткі ад яго. Лічыла дні: калі ён заляцеў, дала два дні на адпачынак, потым далічыла 7-8 дзён, бо столькі ідзе больш-менш авіяпісьмо. Аднак вестачкі не было. Я далічыла яшчэ некалькі дзён. Падумала, што мо ён выслаў ліст звычайнай поштай. Але нічога не прыйшло ні праз месяц, ні праз два.

І вось ужо хутка міне снежань, а я адчуваю сябе як на лёдзе. Ні працы, ні хлопца, ні нават намёку на выезд. Сяброўкі крыху кпяць з мяне: на што пакваплілася?! Пляткуюць, што хлопец проста выкарыстаў мяне ў часе вакацыяў, а цяпер пакінуў, не пераймаючыся маім лёсам. Навват нехта мне сказаў, быццам пляткуюць, што я засталася цяжарная.

Сэрцайка, няпраўда гэта, не цяжарная я. Але апрача дарэмных надзей, якія я насіла ў сваім сэрцы, яшчэ адна праблема мучыць мяне. Я вельмі баюся, што, сплючы з амерыканцам, я магла заразіцца тым модным паскудствам СНІД (AIDS), якое кіруе сёння светам. Яны ж там бліжэй да гэтай хваробы. А яшчэ ж нядаўна я пачула па радыё перадачу на тэму гэтай хваробы. Аказваецца, што ўжо раяць нават у выпадку, калі б людзі ўсё жыццё жылі ў адной пары, дык і то варта надзяваць прэзерватыў. Абазначае гэта для мяне нешта страшнае: мы ж два месяцы ўтрымлівалі палавыя зносіны з гэтым хлопцам, не карыстаючыся ніякімі прэзерватывамі. Што цяпер будзе? Я ж не магу быць упэўнена, што ён у гэтай сваёй Амерыцы не пераспаўся з нейкай хворай дзяўчынай. А як ты думаеш, можна на гэтага хлопца яшчэ разлічваць?

Вандзя

Вандзя! Ну, і навошта табе такі хлопец?! Амерыканец здалёку, няслоўны, можа яшчэ заражаны страшнай хваробай...

Бачыш, як яно ў жыцці бывае: калі б пісаў, запрашаў, пераконваў у сваім каханні, дык можа было б інакш. І ты б нават не падумала пра СНІД. Не думала ж летам, праўда? А цяпер вось прыходзяць табе ў галаву гэтыя спознены думкі. Найважнейшае — думаць у пару.

І яшчэ адно варта памятаць. Госць наогул на выездзе адчувае сябе вальготней, чым гаспадары. Часта робіць што хоча, не беручы пад увагу кансеквенцый. Гаспадару заўсёды цяжэй, бо ён застаецца ў няўпэўненасці, а госць ад'язджае. Што будзе далей — воля госця.

Але ёсць дзяўчыны і ўпартыя, якія знойдуць адрас хлопца, напішуць, а часам нават і прыедуць! Ды толькі тое апошняе — немалая рызыка. Можна прыехаць — а там поўная гармонія з іншай.

СЭРЦАЙКА

P.S. У рускіх ёсць на гэтую хваробу (СПИД) дасканалае лякарства: "спиодин".